● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

1 кастрычніка 1998 г.
чацвер,
№ 196 (23547)

# ЗВЯЗДА

## Зварот з нагоды святкавання Дня пажылых людзей і адкрыцця Міжнароднага года пажылых людзей

*Дарагія ветэраны!*

*Сёння разам з сусветнай грамадскасцю Рэспубліка Беларусь адзначае Дзень пажылых людзей. Гэты дзень пачынае адлік Міжнароднага года пажылых людзей, абвешчанага Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.*

*Жыццё кожнага з Вас — яркая старонка гісторыі, якая заслугоўвае глыбокай павагі. Многія з Вас, нягледзячы на свой узрост і стан здароўя, працягваюць плённа працаваць і займацца грамадскай дзейнасцю, выхаваннем падрастаючага пакалення.*

*Прыярытэтнай задачай палітыкі нашай дзяржавы з'яўляецца сацыяльная падтрымка пенсіянераў, ветэранаў, інвалідаў і іх сем'яў. Менавіта таму ў рэспубліцы распрацаваны і дзейнічаюць праграмы па забеспячэнню ім гарантаванага даходу, своечасовай выплаты пенсій, медыцынскага і сацыяльнага абслугоўвання. Гэту работу мы будзем праводзіць і ў далейшым.*

*Я звяртаюся да ўсіх дзяржаўных устаноў, недзяржаўных арганізацый і грамадскіх структур з прапановай аб'яднаць намаганні па выпрацоўцы і ажыццяўленню канкрэтных мераў, накіраваных на паляпшэнне сацыяльнага становішча пажылых людзей, забеспячэнне іх спакойнай старасці і дастойнага жыцця.*

*Ад усяго сэрца жадаю Вам, дарагія нашы ветэраны, добрага здароўя, разумення з боку блізкіх, даўгалецця і дабрабыту.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*1 кастрычніка 1998 года.*

## МАДЭЛЬНЫЯ ЗАКОНЫ ЯК АСНОВА ІНТЭГРАЦЫІ КРАІН СНД

Інтэграцыйныя працэсы ў рамках СНД, як і ў рамках Саюза Беларусі і Расіі, не будуць рухацца наперад без прыняцця мадэльных заканадаўчых актаў і без развіцця рэгіянальных сувязей. Аб гэтым заявіў Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук 29 верасня ў час сустрэчы з членамі дэлегацыі Пастаяннай камісіі Міжпарламенцкай асамблеі краін — удзельніц СНД па вывучэнню вопыту дзяржаўнага будаўніцтва і мясцовага самакіравання, якая знаходзіцца ў Беларусі. Выязное пасяджэнне гэтай камісіі, як паведамляла ўжо БЕЛТА, праходзіць у Мінску.

У аснове супрацоўніцтва дзяржаў Садружнасці, падкрэсліў Павел Шыпук, павінны быць перш за ўсё гандлёва-эканамічныя сувязі. Палітычныя пытанні будуць вырашацца паралельна. Аднак каб інтэграцыя стала рэальнасцю, нацыянальныя заканадаўствы павінны быць уніфікаваны і не ісці ўразрэз з мадэльнымі законамі, якія прымаюцца ў СНД. Асаблівае значэнне ў сувязі з гэтым набывае няўхільнае выкананне падпісаных краінамі Садружнасці пагадненняў.

Усё гэта прадугледжвае, на думку Паўла Шыпука, устанаўленне больш цесных сувязей і кантактаў паміж парламентарыямі СНД, правядзенне пастаянных кансультацый і настойлівую работу па выпрацоўцы тых мадэльных дакументаў, якія сталі б апорай інтэграцыйных працэсаў.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

### ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

2 кастрычніка 1998 года ў 10.00 у зале пасяджэнняў Савета Рэспублікі (вул.Чырвонаармейская,4) пачне работу пятая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

### ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пятая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пачне сваю работу 2 кастрычніка 1998 года ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (Дом урада, Авальная зала).

Рэгістрацыя дэпутатаў праводзіцца 1 кастрычніка 1998 года з 10 да 20 гадзін у фае залы пасяджэнняў.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА І ЯЎГЕН ПРЫМАКОЎ ДАГАВАРЫЛІСЯ ІСЦІ НАПЕРАД ПА ШЛЯХУ РЫНАЧНЫХ ПЕРАЎТВАРЭННЯЎ

Галоўная мэта сумеснай дзейнасці органаў выканаўчай улады Беларусі і Расіі — пабудова эфектыўнай многаўкладнай эканомікі саюза дзвюх краін. Такі пункт гледжання ў ходзе перагавораў са Старшынёй Урада Расійскай Федэрацыі Яўгенам Прымаковым 30 верасня выказаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Як вядома, Яўген Прымакоў наведаў Мінск з аднадзённым рабочым візітам. Гэта была яго першая паездка ў якасці кіраўніка расійскага ўрада за межы Расіі.

Перагаворы, якія адбыліся адразу ж пасля ўскладання расійскім прэм'ерам вянка да манумента Перамогі, праходзілі ў два этапы ў рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У ходзе першага раунда Аляксандр Лукашэнка і Яўген Прымакоў правялі гутарку сам-насам. Затым за агульны стол селі іншыя члены расійскай урадавай дэлегацыі, а таксама іх беларускія калегі. У прыватнасці, беларускі бок прадстаўлялі прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў, першы намеснік міністра замежных спраў Сяргей Мартынаў, іншыя афіцыйныя асобы краіны.

Яўген Прымакоў уручыў прэзідэнту Беларусі асабістае пасланне Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына.

У ходзе перагавораў адбыўся абмен думкамі па шырокаму колу пытанняў двухбаковых адносінаў, уключаючы паглыбленне інтэграцыі ў рамках Саюза Беларусі і Расіі, пераадоленне цяперашніх фінансава-эканамічных праблем, магчымыя сумесныя дзеянні па выхаду з крызісу. Асаблівая ўвага ўдзялялася неабходнасці надання большай сацыяльнай накіраванасці пераўтварэнням у эканоміцы.

Разгледжаны і пытанні, што датычаць завяршэння фарміравання адзінай мытнай тэрыторыі Саюза, намечаны далейшыя крокі па пашырэнню кааперацыі ў паліўна-энергетычным комплексе, машынабудаванні і іншых галінах, стварэнню спрыяльнага інвестыцыйнага клімату. Выказана пазітыўная ацэнка працэсу развіцця прамых сувязяў паміж Беларуссю і рэгіёнамі Расіі.

Была адзначана таксама гатоўнасць абедзвюх краін да далейшай каардынацыі дзеянняў пры выпрацоўцы падыходаў да рэфарміравання СНД, неабходнасць больш актыўнага ўключэння ў гэту канструктыўную работу іншых краін — удзельніц Садружнасці.

«Праведзеная гутарка пераканала мяне ў тым, што мы паранейшаму з'яўляемся аднадумцамі», — сказаў Аляксандр Лукашэнка ў хуткім часе пасля перагавораў з прэм'ер-міністрам Расіі. Ён выказаў упэўненасць, што новы расійскі ўрад на чале з Яўгенам Прымаковым зможа стабілізаваць сітуацыю ў краіне і вырашыць большасць праблем, якія стаяць перад яе народам. «Са свайго боку я зраблю ўсё магчымае, каб па шляху эканамічных пераўтварэнняў мы ішлі разам», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Яўген Прымакоў з задавальненнем адзначыў, што гутарка праходзіла ў «максімальна дзелавой абстаноўцы» і абодва бакі праявілі «максімальна прагматычны падыход» да большасці праблем, якія абмяркоўваліся. На яго думку, дасягнута разуменне таго, што далейшы рух у эканоміцы можа ажыццяўляцца толькі наперад і толькі па шляху рыначных пераўтварэнняў з узмацненнем мераў дзяржаўнага рэгулявання. «У гэтым плане мы карыстаемся поўнай падтрымкай прэзідэнта Беларусі», — падкрэсліў расійскі прэм'ер.

У ходзе сустрэчы кіраўнікоў беларускага і расійскага ўрадаў, якая адбылася адразу ж пасля перагавораў у рэзідэнцыі прэзідэнта Беларусі, таксама абмяркоўвалася шырокае кола праблем, што датычаць далейшага развіцця двухбаковых адносінаў, паглыблення інтэграцыі ў рамках Саюза Беларусі і Расіі. Паводле аднадушнай думкі, час візіту Яўгена Прымакова ў Беларусь актыўна выкарыстаны для таго, каб абмеркаваць галоўнае ва ўзаемаадносінах паміж дзвюма краінамі. Сяргей Лінг заявіў, што даручыў міністрам ужо з наступнага панядзелка пачаць актыўную падрыхтоўку дакументаў для разгляду на пасяджэнні Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі, якое намечана на 16 кастрычніка.

Яўген Прымакоў у сваю чаргу падкрэсліў, што візіт у нашу краіну быў вельмі плённым. Галоўнае цяпер, сказаў ён, гэта рашучыя дзеянні, накіраваныя на рэалізацыю дасягнутых бакамі дамоўленасцяў. Ён выказаў таксама жаданне, каб той дзелавы і рабочы дух, які праявіўся на перагаворах у Мінску, падтрымліваўся і ў далейшым.



**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭНЕЦЦА СА СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАЙ РАДЫ АЎТАНОМНАЙ РЭСПУБЛІКІ КРЫМ

Перспектывы гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі і Крыма стануць прадметам перагавораў Аляксандра Лукашэнкі са Старшынёй Вярхоўнай Рады гэтай аўтаномнай рэспублікі Леанідам Грачом. Яны адбудуцца 1 кастрычніка ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы ў Вайсковым завулку.

У час сустрэчы будуць абмеркаваны і іншыя пытанні, што датычаць двухбаковага супрацоўніцтва нашай рэспублікі з Крымам, аб якіх ішла размова ў ходзе нядаўна праведзенага візіту ва Украіну Аляксандра Лукашэнкі.

**БЕЛТА.**

## «Прамая лінія» па зямельнаму пытанню



**Да ўвагі чытачоў! 7 кастрычніка гэтага года госцем «Звязды» стане старшыня Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь Георгій Кузняцоў. Свае пытанні на спрадвечную тэму аб зямлі Вы можаце задаць Георгію Іванавічу ў гэты дзень з 11 да 12 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92. Папярэдне звяртайцеся са сваімі праблемамі ў рэдакцыю па тэлефоне 268-27-50, а таксама дасылайце лісты з паметкай на канверце «Прамая лінія». Зямельнае пытанне» на адрас газеты: 220013, г. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а.**

## Усміхнёмся!



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

### Анекдоты

*— Скажы, — пытае хворы ў суседа па дому, — калі доктар ад мяне сыходзіў, ён нічога пра мяне не казаў?*

*— Абсалютна нічога! Спытаў толькі, ці пройдзе труна праз дзверы...*

* * *

У бальніцы ляжыць пацыент, увесь абвіты трубкамі, шлангамі і кропельніцамі. Уваходзіць прафесар у суправаджэнні світы ўрачоў.

*— Ну, хворы, як вы сябе адчуваеце? — падсаджваецца на ложак прафесар. Хворы пачынае дрыжэць, торгацца і бязгучна адкрываць рот.*

*— Што з вамі, хворы? Вы не можаце гаварыць?*

Пацыент закочвае вочы і адмоўна трасе галавой.

*— Дайце яму аловак і паперу! Вы нам напішаце?*

Хворы цягнецца да алоўка. Усе схіляюцца над паперай, дзе слабая рука ледзь выводзіць:

*— Гад, устань са шланга...*

**Генадзь СЕЛЯЗНЁЎ:**

## «ДЛЯ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ ПАТРЭБЕН САЮЗ СЛАВЯНСКІХ ДЗЯРЖАЎ»

**«Шмат праблем знікла б, калі б мы стварылі саюз трох славянскіх дзяржаў: Украіны, Расіі і Беларусі», — заявіў Старшыня Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Генадзь Селязнёў у час візіту ў Кіеў.**

Як паведаміла БЕЛТА ўкраінскае інфармацыйнае агенцтва ДІНАУ, Генадзь Селязнёў выказаў пажаданне, каб Украіна ўвайшла ў Парламенцкую асамблею СНД.

«Нашы дзяржавы аднолькава пацярпелі ад крызісу, і толькі ў нашых руках аднавіць агульны рынак, узняць уласную вытворчасць, навуку, культуру, адрадзіць духоўнасць», — падкрэсліў ён. На думку Генадзя Селязнёва, неабходна ствараць сапраўды незалежныя дзяржавы з развітой эканомікай, сацыяльным забеспячэннем шырокіх мас насельніцтва.

**БЕЛТА-ДІНАУ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 30 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 72900 | 73000 | 43000 | 43530 | 3000 | 4660 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 71500 | 73000 | 42700 | 43500 | 3000 | 4600 | 245-5721 |
| Белпрамбудбанк | 72000 | 73000 | 42500 | 43500 | 4000 | 4670 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 53300 | | 31790.53 | | 3400 | | Курс на 01.10.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15.9056 | | 9.5055 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## У АДКАЗ НА ТЭЛЕГРАМУ ПРЭЗІДЭНТА

**Пасля візіту ў Віцебскую вобласць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў рэгіён паступіла тэлеграма за яго подпісам. Кіраўнік дзяржавы выказаў у ёй шэраг патрабаванняў да кадраў вобласці па забеспячэнню завяршэння сельскагаспадарчага года ў раслінаводстве, навядзенню парадку на палях і вытворчых тэрыторыях у вёсцы.**

Тэлеграма разгледжана на экстранным пасяджэнні Віцебскага аблвыканкама, які прызнаў справядлівай крайне рэзкую ацэнку прэзідэнта якасці палявых работ у шэрагу раёнаў вобласці і іх тэмпам.

— Я лічу, — заявіў у адказ на крытыку старшыня Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка, — што ў параўнанні з папярэднімі двума гадамі адбыўся «адкат» у настроенасці на поспех, прыйшла самазаспакоенасць, а з ёй і безадказнасць.

Нізкія ўраджайнасць і культура земляробства, на думку кіраўніка абласной вертыкалі ўлады, не абумоўлены аб'ектыўнымі прычынамі, вёска атрымала велізарную дапамогу. Прычына ў безгаспадарчасці на месцах.

Віцебскі аблвыканкам вызначыў неадкладныя меры па павышэнню адказнасці, выканальніцкай дысцыпліны. Для навядзення парадку на палях, забеспячэння завяршэння ўсіх уборачных работ, сяўбы азімых, пад'ёму зябліва з захаваннем тэхналогіі і разлікаў з дзяржавай, перш за ўсё па авансаванай вытворчасці збожжа, кіраўніцтву раёнаў дадзены месячны тэрмін.

Стан спраў у сельскай гаспадарцы будзе разгледжаны ў кожным раёне з удзелам адказных работнікаў абласнога звяна, якія рашэннем аблвыканкама абавязаны ажыццяўляць кантроль за выкананнем намечаных у гэтых раёнах мерапрыемстваў.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

# ПАТРЫЯРХ АЛЕКСІЙ II ВЫКАЗАЎ ПАДЗЯКУ ПРЭЗІДЭНТУ БЕЛАРУСІ

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II 29 верасня накіраваў пісьмо прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, у якім выказаў глыбокую падзяку за гасцінны прыём на беларускай зямлі ў час яго нядаўняга візіту ў нашу краіну.

Як адзначаецца ў паведамленні, што паступіла ў БЕЛТА па каналах ІТАР-ТАСС, у сваім пісьме прадстаяцель Рускай праваслаўнай царквы падкрэсліў, што сіла беларускага і расійскага народаў заключаецца перш за ўсё ў брацкім яднанні. «Мы набылі самае важнае — адчуванне жывой любові да народа Расіі з боку беларускага народа, любові, карані якой ідуць у шматвяковую гісторыю», — падзяліўся сваімі ўражаннямі патрыярх Алексій II. Беларусы, якія перажылі трагедыю ў гады другой сусветнай вайны, на думку Яго Святейшаства, «добра разумеюць, як важна цяпер захоўваць адзінства і не паддавацца на безадказныя заклікі дэструктыўных сіл да дэзінтэграцыі».

Кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы падкрэсліў, што ў асобе прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ён бачыць «дзяржаўнага кіраўніка новага тыпу, які імкнецца звесці на нішто штучную перашкоду паміж Царквой і дзяржавай, што ўзнікла ў гады атэізму». Гэтыя адносіны, на думку патрыярха, цяпер грунтуюцца на ўзаемнай дапамозе і падтрымцы.

Алексій II падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за ўручэнне яму высокай дзяржаўнай узнагароды — ордэна Францыска Скарыны, якім адзначана дзейнасць прадстаяцеля Рускай праваслаўнай царквы па развіццю дружалюбных сувязяў паміж народамі. Ён таксама выказаў надзею, што іх сустрэчы паслужаць вялікай справе аб'яднання аднаверных брацкіх народаў напярэдадні 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова і ўступлення чалавецтва ў XXI стагоддзе.

**БЕЛТА.**

# УСЕ РАЗАМ СУПРАЦЬ СУРАГАТУ

**Дзяржаўны падатковы камітэт Рэспублікі Беларусь звяртае ўвагу насельніцтва краіны на стаўшыя больш частымі выпадкі рэалізацыі алкагольных вырабаў нізкай якасці, выпушчаных саматужным спосабам.**

Яны прадаюцца некаторымі прадпрыемствамі гандлю і грамадскага харчавання пад выглядам і маркай прадукцыі афіцыйных прадпрыемстваў-вытворцаў. Аб гэтым паведамілі БЕЛТА ў прэс-цэнтры галоўнай падатковай арганізацыі краіны.

Аб усіх такіх выпадках Дзяржаўны падатковы камітэт заклікае грамадзян рэспублікі паведамляць гэтаму ведамству, а таксама яго інспекцыям па месцы жыхарства, указваючы месца куплі і назву алкагольнага вырабу для прыняцця адпаведных мераў.

**БЕЛТА.**

*АСАБІСТАЕ*

# АБВАЛА ЦЭНАЎ НЯМА. ЁСЦЬ ПРОСТА ВЯЛІКІЯ ЦЭНЫ

**Цэнамі сёння жывуць усе: у транспарце, на працы, дома. Любая гутарка «за жыццё» нязменна заканчваецца пералікам лічбаў — што па чым было ўчора і колькі гэта каштуе сёння. Пра заўтра людзі ўвогуле палохаюцца нават думаць, бо параўнанне яшчэ нядаўніх і цяперашніх цэнаў паказвае: у самых смелых прагнозах нельга было ўявіць, наколькі за апошні час падаражэе жыццё.**

Безумоўна, большасць з нас новыя цэны яшчэ па сапраўднаму не закранулі. Запасы цукру, крупаў, солі, алею, макаронных вырабаў ёсць практычна ў кожнай сям'і. У некага большыя — мех-другі, у кагосьці — па некальні кілаграмаў, але ёсць. Калі што і трэба, заўсёды выратуе рынак, дзе ўсё больш таннае, чым у крамах. У магазінах людзі бяруць толькі самае неабходнае — малако, смятану, кефір, хлеб, вараную каўбасу. На астатняе пачынаюць пазіраць вачыма наведвальніка музея. Так, гаворка аб тым, што гандаль імпартнымі харчовымі таварамі будзе весціся з улікам рэальна сфарміраваўшыхся цэнаў на іх (чытай — без абмежаванняў магчымага росту) вяліся даўно. Да пары яшчэ выратоўвалі старыя запасы гандлю, аднак яны скончыліся, як у рэшце рэшт, скончацца і запасы ў кожнага з нас. На рынак, вядома, кожны раз не наездзішся, ды і хто ведае, які там заўтра будзе выбар. Давядзецца ісці ў магазін... Каб пражыць, недастаткова есці адныя толькі адносна танныя малако, хлеб, вараную каўбасу.

Мы з жонкай самі асабіста перапытвалі ў прадаўца: ці не падалося нам, што грэцкія крупы ў нашым магазіне каштуюць 126 тысяч рублёў? Мо ў пакеце два кілаграмы? Не, не падалося, адказала тая, гэта цана кілаграма. У іншых магазінах бачылі цану нават у 148 тысяч. А рыс? Па 101—112 тысяч рублёў за кілаграм! Бутэлька імпартнага алею — 265 тысяч, лімоны — 365 тысяч! Можа я чаго не разумею, але чаму на рынку ўсе гэтыя тавары каштуюць удвая менш? Вядома, закупкі вядуцца за валюту, у кошт закладваецца гандлёвая надбаўка, транспартныя выдаткі. Але ж і камерсант набывае харчаванне за тыя ж долары. За рыс і алей з ім расплачваюцца не СКВ, значыць, яе трэба набываць, вядома, па «чорнаму» курсу. Зноў жа бензін, захоўванне, ды і сабе ў страту ён гандляваць не будзе. Дык чаму ўсё роўна ў яго цана ўдвая меншая?

Хто сабе зараз дазволіць набыць у магазіне дзіцяці шакаладку за 170 тысяч, ці пакет соку за 200—300 тысяч рублёў? Як патлумачыць яму, што грошы патрэбныя на макароны — 145—150 тысяч за паўкілаграма, на маянэз — 45—55 тысяч за пачак, добры батон-пляцёнку, які не сапсуецца праз дзень — 14—16 тысяч рублёў? Салата з кансерваванай кукурузы (120 тысяч за бляшанку) і крабавых палачак (170 тысяч за ўпакоўку) увогуле становіцца выключна навагодняй стравай. Пра рыбапрадукты ўвогуле асобная гаворка. Самы танны з іх — селядзец — на прылаўках ляжыць па 114—130 тысяч. Маладая пара папрасіла прадаўца ўзважыць дзве рыбіны, але, зірнуўшы на суму, ціхенька папрасіла пакінуць толькі адну. На астатнія рыбныя дэлікатэсы цэны вагаюцца ў межах 180—340 тысяч. Ды Бог з імі, з дэлікатэсамі, як і з той аднаразавай капілярнай ручкай вытворчасці Германіі ў аддзеле канцтавараў. Некалі яна каштавала 40 тысяч, потым 80, затым 120. Цяпер — 446 тысяч рублёў! Пра тэхніку я ўвогуле маўчу. Айчынныя тэлевізары, халадзільнікі па-ранейшаму не частыя «госці» на паліцах сталічных магазінаў. А тое, што ёсць, шакіруе зноў жа цэнамі. «Гарызонт» з памерам экрана 37 сантыметраў па дыяганалі каштуе, напрыклад, у «Беларусі» 16,5 мільёна. Імпартных пыласосаў — з дзесятак, можна выбраць нават колер. Цэны — ад 20 да 37 мільёнаў. У ЦУМе замежныя пральныя машыны «цягнуць» ад 55 да 117 мільёнаў рублёў. Якой сям'і гэта зараз па кішэні? У «Доме мэблі» свабодна стаяць айчынныя наборы карпуснай мэблі — бяры — не хачу. Не хачу, бо няма за «сценку» такіх грошай — 50 мільёнаў. Знаёмы нядаўна паскардзіўся: не купіў раней туфлі за мільён, зараз трэба выкладваць два. І пры ўсім пры гэтым плаціць за кватэру, набываць праязны. Зараз усе чакаюць 1 кастрычніка. Вырасце «мінімалка», павялічацца зноў і цэны? Сувязісты, транспартнікі, камунальшчыкі — усе чакаюць дазволу Камітэта цэн павялічыць цэны на свае паслугі...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

***Гасцям і ўдзельнікам Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Белая вежа-98»***

Дарагія сябры!

Ізноў гераічная і гасцінная брэсцкая зямля сардэчна прымае стаўшы ўжо традыцыйным Міжнародны тэатральны фестываль «Белая вежа». Упэўнены ў высокай гуманістычнай місіі мастацтва, жаданні кожнага творцы — удзельніка гэтага свята несці цеплыню сэрцаў, чысціню памкненняў і талент свайму народу. Усіх нас радуе жаданне майстроў тэатральнай сцэны сустракацца, шукаць і адкрываць таямніцы чалавечай душы, весці пастаянны дыялог з гледачом.

Цудоўна, што дзеячы тэатраў Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Бразіліі, Літвы, Турцыі, Італіі маюць магчымасць парадавацца творчым дасягненням сваіх калег, пранікнуць у нацыянальныя асаблівасці мастацтва розных народаў свету.

Жадаю арганізатарам і гасцям фестывалю поспехаў, новых творчых адкрыццяў, моцнага здароўя і цудоўнага настрою.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

1 кастрычніка 1998 года.

# БЕЛАРУСЬ — УКРАІНА: ЗРОБЛЕНЫ ВАЖНЫ КРОК У АКТЫВІЗАЦЫІ ДВУХБАКОВЫХ АДНОСІНАЎ

Эканамічную сітуацыю, што склалася ў Беларусі і ва Украіне, абмеркавалі кіраўнікі ўрадаў дзвюх краін Сяргей Лінг і Валерый Пуставойценка ў ходзе візіту ўрадавай дэлегацыі нашай рэспублікі ў Кіеў 28-29 верасня.

Сёння Украіна з'яўляецца адным з галоўных гандлёвых партнёраў Беларусі, аднак за восем месяцаў гэтага года тавараабарот паміж нашымі краінамі істотна скараціўся ў параўнанні з аналагічным мінулагоднім перыядам. Для змянення становішча, на думку прэм'ер-міністраў, трэба распрацаваць і ўвасобіць у жыццё доўгатэрміновую праграму эканамічнага супрацоўніцтва тэрмінам на дзесяць гадоў. Яна, лічыць Сяргей Лінг, магла б натуральна ўпісацца ў праграму стратэгічнага развіцця Беларусі да 2015 года, якая распрацоўваецца.

У ходзе сустрэчы двух прэм'ераў дасягнуты і шэраг прынцыповых дамоўленасцяў. З мэтай удасканалення сістэмы ўзаемаразлікаў украінскі бок выступіў з прапановай стварыць міжнародны банкаўскі кансорцыум, што дазволіла б актывізаваць работу банкаўскіх сістэм абедзвюх краін. У яго можа ўвайсці «Праминвестбанк» з украінскага боку, «Прамбудбанк» з беларускага, магчыма, і расійскія банкі. Акрамя таго, каб не дапусціць зніжэння аб'ёмаў гандлю паміж нашымі дзяржавамі, захаваць рынкі збыту для ўкраінскіх і беларускіх тавараў, разлікі паміж бакамі будуць праводзіцца і па бартэрных схемах.

Для нарошчвання аб'ёмаў тавараабароту неабходна працаваць разам, знімаючы бар'еры перад украінскімі і беларускімі экспарцёрамі, дзейнічаючы па прынцыпу ўзаемнага інтарэсу, было падкрэслена ў час сустрэчы прэм'ераў. На думку Сяргея Лінга, паглыбленню двухбаковых гандлёва-эканамічных адносінаў будзе садзейнічаць адсутнасць палітычных рознагалоссяў, агульнае імкненне да развіцця кааперацыі таваравытворцаў.

Шкадаванне наконт скарачэння аб'ёмаў украінска-беларускага тавараабароту, які на сёння не адпавядае існуючаму патэнцыялу, выказаў у час сустрэчы з беларускім прэм'ер-міністрам Старшыня Вярхоўнай Рады Аляксандр Ткачэнка. Паводле яго слоў, цяпер паміж дзвюма краінамі назіраецца «бедная эканамічная інтэграцыя». Кіраўнік украінскага парламента падкрэсліў, што яго краіна зацікаўлена ў набыцці беларускіх трактароў, камбайнаў, аўтамабіляў «БелАЗ» і можа таксама прапанаваць суседняй рэспубліцы прадукцыю сваіх прадпрыемстваў.

Сяргея Лінга прыняў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. У ходзе гэтай сустрэчы былі разгледжаны важнейшыя крокі ў актывізацыі адносінаў дзвюх дзяржаў.

Па выніках праведзеных у Кіеве перагавораў Сяргей Лінг і Валерый Пуставойценка падпісалі пратакол рабочай сустрэчы, які вызначае далейшыя шляхі ў развіцці двухбаковых эканамічных адносінаў.

У гэтым дакуменце бакі адзначылі ўзаемную зацікаўленасць у далейшым развіцці культурных, навукова-тэхнічных і гандлёва-эканамічных сувязей паміж дзвюма дзяржавамі, украінскім і беларускім народамі.

Разам з тым прынята рашэнне аб пераадоленні ўзнікшых негатыўных тэндэнцый. У прыватнасці, пратаколам прадугледжваецца актывізаваць работу па фінансаванню сумеснай вытворчасці па зборцы кормаўборачнай тэхнікі, выпрацаваць прапановы па расшырэнню паставак ва Украіну аўтамабіляў «БелАЗ», разгледзець удзел беларускага боку ў вытворчасці электра- і цеплавозаў.

У ходзе візіту быў падпісаны таксама шэраг дакументаў паміж міністэрствамі і ведамствамі абедзвюх краін.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

# «ЖАНЧЫНЫ — ЗА ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ»

Пад такім дэвізам праводзіцца цяпер у нашай рэспубліцы Дзень маці — дзяржаўнае свята, заснаванае ўказам прэзідэнта краіны ў ліпені 1996 года. І хоць адзначаецца яно 14 кастрычніка, святочныя мерапрыемствы пачнуцца ўжо 1 кастрычніка.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Беларускім саюзе жанчын, у першы тыдзень кастрычніка ў сталіцы пройдуць дні маладой маці. Затым эстафету прымуць рэгіёны, дзе запланаваны дні міласэрнасці, шматдзетнай маці, спецыяльныя кінасеансы і вечары. 10 кастрычіка ў Мінску адкрываецца Крызісны рэабілітацыйны цэнтр для жанчын, якія падвергліся насіллю, а на наступны дзень на свой вялікі сход збяруцца сталічныя бабулі.

Свой удзел у рэалізацыі прэзідэнцкай праграмы «Дзеці Беларусі» жанчыны абмяркуюць на пасяджэнні за «круглым сталом». А 14 кастрычніка пасланцы ўсіх абласцей краіны прыедуць у сталіцу, каб прыняць удзел у вялікай святочнай праграме.

**БЕЛТА.**

**СЁННЯ**

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.10 | 18.48 | 11.38 |
| Віцебск – | 7.01 | 18.38 | 11.37 |
| Магілёў – | 6.59 | 18.38 | 11.39 |
| Гомель – | 6.58 | 18.33 | 11.35 |
| Гродна – | 7.27 | 19.01 | 11.34 |
| Брэст – | 7.25 | 19.05 | 11.40 |

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра — 28 верасня. З 16.18 — 12-ыя месяцавыя суткі.**
**Месяц — у сузор'і Казярога**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Арыядны, Ірыны, Соф'і**
**К. Дануты, Тэрэзы**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па ўсходняй палавіне дажджы, магчымы мокры снег. Вецер паўночны, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 5—7, Мінску — 6—8, Гродне, Магілёве — 7—9, Брэсце — 8—10, Гомелі — 10—12 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, пераважна без ападкаў, толькі 3-га па поўдню рэспублікі невялікія ападкі. Вецер паўночна-ўсходні, 4—9 м/сек. Тэмпература ўначы 0—3 градусы марозу, 3-га па поўдню 1—6 цяпла; удзень — 6—11 градусаў вышэй нуля.

*ЗАЦВЕРДЖАНА*
*Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 29.09.1998 № 468*

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб парадку вырашэння пытанняў, звязаных з аб'яднаннем аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр

1. Рашэнне аб аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, прымаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з улікам думкі насельніцтва і са згоды мясцовых Саветаў дэпутатаў (далей — Саветы дэпутатаў) адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія аб'ядноўваюцца.

2. Пры аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, Савет дэпутатаў, дэпутаты якога ўводзяцца ў састаў Савета дэпутатаў аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, ліквідуецца. Пры гэтым Савету дэпутатаў аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі перадаюцца паўнамоцтвы ліквідуемага Савета дэпутатаў.

Пры аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр і Саветы дэпутатаў пярвічнага і базавага тэрытарыяльных узроўняў, дэпутаты Савета дэпутатаў пярвічнага тэрытарыяльнага ўзроўню ўводзяцца ў састаў Савета дэпутатаў базавага тэрытарыяльнага ўзроўню і ўдзельнічаюць у яго рабоце з правам дарадчага голасу, а па пытаннях, што закранаюць інтарэсы насельніцтва тэрытарыяльнай адзінкі, ад якой яны былі выбраны, — з правам рашаючага голасу.

Пры аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр і Саветы дэпутатаў аднаго тэрытарыяльнага ўзроўню, дэпутаты ліквідуемага Савета дэпутатаў працягваюць работу ў Савеце дэпутатаў аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі на роўных правах.

3. У сувязі з аб'яднаннем аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр і Саветы дэпутатаў аднаго тэрытарыяльнага ўзроўню, выканаўчыя і распарадчыя органы гэтых адзінак ліквідуюцца і замест іх утвараюцца выканаўчыя і распарадчыя органы аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. Калі аднайменныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі, якія аб'ядноўваюцца, маюць агульны адміністрацыйны цэнтр і Саветы дэпутатаў пярвічнага і базавага тэрытарыяльных узроўняў, выканаўчыя і распарадчыя органы пярвічнага тэрытарыяльнага ўзроўню ліквідуюцца. У структуры выканаўчых і распарадчых органаў аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ствараюцца адпаведныя падраздзяленні па забеспячэнню дзейнасці аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

4. Ліквідацыя Савета дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў, прадугледжаная пунктамі 2 і 3 гэтага Палажэння, ажыццяўляецца ліквідацыйнай камісіяй, што ствараецца ў двухтыднёвы тэрмін з дня ўступлення ў сілу Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр:

абласным выканаўчым камітэтам — пры аб'яднанні адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць Саветы дэпутатаў базавага або базавага і пярвічнага тэрытарыяльных узроўняў;

раённым выканаўчым камітэтам — пры аб'яднанні адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць Саветы дэпутатаў пярвічнага тэрытарыяльнага ўзроўню.

5. Ліквідацыйная камісія ўстанаўлівае парадак і тэрміны правядзення ліквідацыі Савета дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў і ў дзесяцідзённы тэрмін з моманту яе стварэння інфармуе аб гэтым дзяржаўныя органы, якія ажыццяўляюць у адпаведнасці з заканадаўствам улік існуючых і рэгістрацыю ўтвараемых адміністрацыйна-тэрытарыяльных і тэрытарыяльных адзінак, а таксама публікуе паведамленне аб маючай адбыцца ліквідацыі ў мясцовым друку.

Ліквідацыйная камісія праводзіць ацэнку маёмасці ліквідуемых Савета дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў, у тым ліку сродкаў пазабюджэтных і валютных фондаў, і перадае яе па ліквідацыйнаму балансу выканаўчаму і распарадчаму органу аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

Іншая маёмасць, якая належыць на праве ўласнасці скасоўваемым адміністрацыйна-тэрытарыяльным адзінкам, перадаецца ва ўласнасць аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

6. Пытанні працаўладкавання работнікаў ліквідуемых Савета дэпутатаў (яго апарату), выканаўчых і распарадчых органаў вырашаюцца ліквідацыйнай камісіяй ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

7. Падаткі, зборы і іншыя плацяжы, якія падлягаюць унясенню ў бюджэт скасоўваемых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, залічваюцца ў бюджэт аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі з дня ўступлення ў сілу Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр.

8. Пры фарміраванні бюджэту аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі фінансаванне тэрытарыяльных адзінак, якія ўваходзяць у яе састаў і мелі да аб'яднання статус адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, можа вызначацца ў яго расходнай частцы асобным радком.

9. Гарады, якія мелі да аб'яднання з раёнамі ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку статус гарадоў абласнога падпарадкавання, на працягу 3 гадоў з дня ўступлення ў сілу Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб аб'яднанні аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, кіруюцца нарматыўна-прававымі актамі, прадугледжанымі для гарадоў абласнога падпарадкавання.

10. Савет дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы аб'яднанай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі з'яўляюцца правапераемнікамі адпаведна Савета дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў, што ліквідуюцца ў сувязі з аб'яднаннем аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр.

11. Кіраўнікі ліквідуемых Савета дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў ажыццяўляюць ускладзеныя на іх паўнамоцтвы да заканчэння работы ліквідацыйнай камісіі.

# ПАЛІТЫЧНЫ ВЕКТАР ЗША НАКІРАВАНЫ НА ДРУЖБУ З БЕЛАРУССЮ

Новы састаў дыпламатычнага корпуса пачаў работу ў пасольстве ЗША ў нашай краіне. Аб гэтым паведаміў на афіцыйным прыёме, наладжаным у сувязі з гэтым амерыканскім пасольствам, Часовы Паверáны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Рэндэл Лекак.

На вечар знаёмства былі запрошаны беларускія дыпламаты, ваенныя, лідэры палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Прадстаўляючы сваіх калег, Рэндэл Лекак адзначыў, што новая каманда пасольства прадоўжыць працаваць у напрамку ўзаемаразумення і супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі нягледзячы ні на якія дыпламатычныя цяжкасці, якія ён назваў часовымі. «Глядзець з надзеяй у будучыню нам дапамагае аптымізм і дабрыня беларускага народа, аб чым неаднаразова заяўляў і пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард, які ўважліва сочыць за падзеямі, што адбываюцца ў Беларусі», — падкрэсліў Рэндэл Лекак.

**Галіна ШАРАЕВА, БЕЛТА.**

ЗВЯЗДА
1 кастрычніка 1998 г.



# ПАДАРОЖЖА Ў ВЁСКУ ГАЛОЎКІ І АДТУЛЬ

**Калі б мне ўдалося пагаварыць з маці Валянціна Жура па тэлефоне, напэўна, усё б высветлілася, і я ўвогуле не паехала б у Галоўкі. Паштальёнка сказала мне: «Патэлефануйце заўтра ў гэты час». І Валянціну перадалі. Маці яго прыйшла на пошту ў без чвэрці гадзіну. Я ў той самы момант выходзіла з нотнай крамы і крочыла ў бок метро. Метрапалітэнаўскі гадзіннік паказваў, што ўжо трэба званіць. Я бегла да перагаворнага пункта, спазнілася, але спадзявалася, што ўжо на хвілін дзесяць-пятнаццаць там, у Галоўках, затрымаюцца. Там чакалі да паловы другой. Але пошта была зачыненая, цётка Валя зірнула яшчэ раз на гадзіннік, села на веласіпед і паехала ў краму па цыгарэты і хлеб.**

НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ ёй перадалі, што зноў нехта званіў з Мінска, нават у Бабічы трапілі, усё распытвалі пра Валянціна. «Ды хлопцы жартуюць, — супакойваў яе Валік, — таварышкі па службе, якраз дзень ВПС». — «Казалі, жаночы голас, малады», — зазірала яму ў твар маці. «Можа папрасілі якую дзяўчыну з вуліцы», — адмахнуўся сын. І то. Але ж не. Не аднойчы ж званілі. І ў магазін. І на ФАП. Бабы смяюцца: нявестка едзе, а раптам з дзіцем. Валік служыў у Мінску, можа што і пакінуў. У глыбіні душы Валянціна нават абрадавалася, бо ёй адной сярод мужыкоў надакучыла. «Ды можа багатая нявестка, — жартавала яна, — падарункаў навязе».

Я паехала наўдачу. Паштальёнка растлумачыла, што аўтобус з Мінска прыязджае ў Рэчыцу ў трынаццаць пяцьдзесят, а з Рэчыцы на Галоўкі ідзе у чатырнаццаць роўна. Калі аўтобус спынілі пад Мінскам, каб падабраць пустую каністру ля дарогі, я трошкі ўсхвалявалася, але хутка мы нагналі страчаны час. Так было і калі мы падкідвалі грыбнікоў, і калі спыняліся з-за кантралёра, вясёлага хлопца, які выскачыў прама з кустоў за Бабруйскам, чым выклікаў нервовы смех у вадзіцеля. І калі падвезлі ў Светлагорску старую, што ледзь крочыла на аўтавакзал. Усё ішло добра, мы ўкладваліся ў расклад хвіліна ў хвіліну, калі пад самай Рэчыцай, кіламетраў за пяць, раптам нешта зашыпела ў коле. «Ікарус» спыніўся, вадзіцель ціха вылаяўся і скочыў на дарогу. Услед высыпалі некалькі мужыкоў з цыгарэтамі і я, усхваляваная і збянтэжаная. «Незразумела, — патлумачыў наш вознік, на ўсякі выпадак падкручваючы балты на колах, — але да Рэчыцы даедзем». Толькі мяне гэта не супакоіла, я ведала, што больш на Галоўкі аўтобуса не будзе да наступнай раніцы, што ехаць туды з Рэчыцы больш за гадзіну, і я нават ведаю, у які бок.

У чатырнаццаць роўна мы ўехалі ў горад. Але дзе ж той аўтавакзал?! Я стаяла на прыступках, гатовая бегчы і крычаць, вельмі нервавалася, калі насупраць чыгункі жанчына з дзіцем папрасіла яе высадзіць. «На аўтобус не паспяваю, — гаварыла я, — а тут можа злаўлю яго». — «На які аўтобус? — «На Галоўкі». — «І я на Галоўкі, дык я з вамі».

Мы ўжо пачалі пераходзіць пуці, калі таварны састаў перагарадзіў нам шлях і стаў. Якраз пасярэдзіне. Спачатку мы выrашылі абысці яго ззаду, і прайшлі ўжо па каменнях вагоны тры, як ён даў задні ход. «Што ж гэта за дзень такі!» — уздыхнула мая падарожніца і мы, ламаючы ногі, пакрочылі ў іншы бок.

Толькі мы з ёю сталі на платформу, як цягнік спыніўся. Цяпер бліжэй было абысці яго спераду, здавалася, так было і больш бяспечна. Мы зноў спусціліся на насып і нават яшчэ не дайшлі да першага вагона, як гэта штука паехала ўперад. Мы рассмяяліся, але ж гатовы былі расплакацца. Беднае хлапчаня мужна пераносіла нашу беспаспяховую беганіну. Калі мы, змучаныя, сталі, нарэшце, і вырашылі чакаць на адным месцы, хай будзе, што будзе, цягнік яшчэ патузаўся і паехаў-такі назад. Малады машыніст напалову высунуўся з лакаматыва, усміхаўся, разводзіў рукамі.

На аўтобус мы паспелі. Забіты быў аўтобус, аж трашчэў, на дзевяць дзесятых там былі старыя. Але было і некалькі шумлівых дзяўчат вясковых, прыгожых маладых кабет у скураных куртках, ужо не вясковых, немаўлятка з маці, больш падобнай на сястру — вярталіся з бальніцы, і два маленькія хлопчыкі, што, відаць, ехалі ў госці да бабуль. Душна было нясцерпна, вераснёўскае сонейка заліло салон, але вокны і люкі ніхто не адчыняў, мо за малое баяліся, мо за старых. Толькі пасажыры былі ў добрым настроі, усміхаліся, частавалі дзяцей пячэннем, жвава абмяркоўвалі, якія ў Рэчыцы больш танныя харчовыя магазіны. Вяскоўцы везлі з горада свіныя ножкі, ялавічны тлушч, сала. Пра рыбу толькі гаварылі ўсміхаючыся.

Прыгожыя мясціны вакол Галовак. Лес, то сасновы, то змешаны. Празрысты бярэзнік, маленькія рачулкі, залітыя сонейкам сенажаці. Такой веліччу і спакоем ад усяго гэтага павявала, што міжволі пазайздросціла ўсім гэтым ружавашчокім старым у аўтобусе і маладой маці з малым, што раз'енчыўся, і тым басаногім дзецям, што за акном...

— А вы да каго едзеце?

— Да Жура Валянціна.

— Ды, здаецца, ён тут, у аўтобусе.

— Так? А дзе ён, пакажыце, калі ласка, бо я ў твар яго не ведаю.

Гэта аказаўся не той Жура. Той, да якога я ехала, але не той, які мне быў патрэбны. Я шукала сябра Альфяровіча Алеся, які загінуў у 1994 годзе ў Лідзе. Жура служыў з Алесем два гады, ён ведаў яго характар, планы, зносіны з іншымі таварышамі па службе. Быццам бы суд і высветліў абставіны смерці Алеся, але для яго маці засталося шмат незразумелага, а таксама і для адвакатаў, увогуле юрыстаў і мяне, калі я выслухала бедную жанчыну. Таму і паехала ў Галоўкі, спадзявалася хоць на нейкія пытанні знайсці адказ. Хаця б проста даведацца болей пра апошнія дні Алеся. Я ведала прозвішча, ініцыялы, прыкладны ўзрост. Вось мне і сказалі па тэлефоне, што ёсць такі, Жура В. М., Валянцін Мікалаевіч, прыкладна дваццаці чатырох гадоў. Аўтобус даехаў да канцавога прыпынку, калі я высветліла, што не той. Але жвавая старая, якая з пачатку маёй размовы з Валянцінам прасунула сваю галаву паміж нашымі, не дала мне разгубіцца:

— Мабыць, гэта Васіль Жура?

Высвятленне мы прадоўжылі ўжо на вуліцы. Тут сустракала мяне цётка Валянціна, яна адразу ўсё зразумела і дапамагла ў пошуку. Аказалася, што з трохсот двароў ледзь не палова тут — Жура. А другая палова — Галавіны. Нашчадкі заснавальнікаў вёскі — беларуса Жура і ўкраінца Галавіна, быццам сваяка вядомага ў пятроўскія часы генерал-адмірала. Нарэшце дакладна вызначылі, што мне патрэбны Вячаслаў Міхайлавіч, малодшы сын цёткі Анюты, які ў вёсцы зараз не жыве. Але Анюта тут, адна, і мабыць скажа, як знайсці яе сына. Я не ведала, што рабіць, аўтобус зараз пойдзе і больш я да ранку нічым не з'еду з вёскі, але некалькі кабет прапанавалі мне начлег і я засталася.

Не адразу зразумела, што цётка Валянціна прывяла мяне да сябе, а не да двара Анюты. «Зараз паясі малочнага супу», — сказала яна, выкладваючы з мяха сушкі на лаву ўздоўж сцяны. Пасля супу была духмяная яечня з цыбуляй і скваркамі. А потым яшчэ паўлітровы слоік салодкага малака. Нічога больш смачнага я не ела ў жыцці і нават ніколі не думала, што столькі ўва мне можа змясціцца.

— Раней у печы гатавала, а зараз вось плітку купілі, больш зручна, хаця ў печы больш выгадна. Цяпер прывыкла так, да таго ж няма чыгунка для печы.

— Як жывецца ў вёсцы, цётка Валянціна?

— Нічога добрага. Грошай не плацяць. Што ёсць свайго, тым і жывём. Добра яшчэ ліснянкі здалі, і то, скажу вам па сакрэту, хлопцы мне трошкі далі, а на астатняе гарэлку купілі. Мух вось поўная хата, а вывесці няма чым. Бабы гавораць, малако з цукрам змяшаць і туды атруты для жука. Трэба зрабіць, ды ўсё ніяк не збяруся.

Цётка Валянціна выглядае гадоў на трыццаць восем, невялікая, хударлявая, з мяккімі рысамі, светлымі вачамі. Аказалася, ёй пяцьдзесят, жыве яна зараз у мацярынскай хаце, старэнькай, але ўтульнай, цёплай.

— Ведаеце, калі пайшла замуж у той двор, адразу адчула: не мой гэта дом. Так і атрымалася. Але тут я нядаўна, і мужык мой прыходзіць сюды, і я да яго хаджу, — смяецца цётка Валянціна, — ведаеце, як — гарэлка. Усё спадзяюся, што кіне піць. Мо закадзіруецца.

Меншы таксама ў яе выпівае. Зараз не працуе. Рабіў даглядчыкам жывёлы, кожны дзень на працу, а атрымліваў мільён, што гэта за грошы маладому хлопцу. Кінуў. Зараз вунь то ліснянкі збярэ, здасць, то рыбу зловіць, у хату прынясе.

Мы ішлі па вёсцы, а Валянціна пыталася, ці знайду я дарогу да яе, толькі дзе там. Што ні двор — то вялізны агарод, сад, ніякай геаметрыі ў размяшчэнні вуліц, дзіўна нават, што ёсць такія. А прыгожа, Божа літасцівы! Які прастор. Не, душа — гэта нешта такое, што не змяшчаецца недзе ўнутры грудной клеткі. Гэта нешта распаўсюджанае да межаў, дзе спыняецца вока. Ці то шэрыя сцены панельных каробак у горадзе, ці то ўласныя сцены кватэры. Тут, у Галоўках, душа з непрывычкі млела, раскідваючыся ў зялёна-залаты абшар, так і звала збегчы, згубіцца паміж вялізнымі дрэвамі.

— Добра ў вас тут, цётка Валянціна.

— Так, спакойна. Раней было лепш. Вось тут прама быў лес. Зараз усё павысеклі.

Цётка Валянціна працуе ў школе ў швейнай майстэрні. Зараз яна хварэе, нядаўна перанесла аперацыю, таму працаваць ёй стала цяжка. Яна атрымлівае два мільёны дзвесце. Гэта разам з «грабавымі». Так, вёска трапіла ў зону высялення. Нехта паспеў у свой час нават атрымаць грошы, на якія купілі дамы пад Рэчыцай жа, для дзяцей. Але потым ўсё гэта спынілася, людзі засталіся. Зараз хлопцы пасля арміі вяртаюцца, бо не ведаюць, куды яшчэ падацца. Працу знайсці стала цяжка. Вось і цётка Валянціна прыглядае сваім сынам хату, ажэняцца, будуць жыць асобна, а яна тут, у матчынай.

Якраз цётка Анюта, да якой мы ішлі, і не супраць была прадаць хату, з'ехаць да дзяцей. Бо стамілася, адной цяжка, працы шмат тут, вунь агарод які вялікі. Яна б за тысячу долараў прадала. У яе добры дом, моцны, светлы, лазня ёсць. Цётка Анюта атрымлівае пенсію два мільёны. Складвае, калі ўдаецца, а сыны прыедуць — аддае. Чаму? — нехта спытаў яе. «Дык не дасі — не прыедуць жа», — смяецца цётка Анюта. Я слухаю, як яна расказвае пра казу і пра яйкі, што кормяць яе, пра парсюка, што худы, бо няма чым карміць, пра тое, што яна стала дрэнна чуць і чакае, калі дзеці забяруць да сябе, а яны вунь прывезлі рамы на вокны (зноў смяецца), і любуюся ёю. Бо такі ў яе добры твар, у цёткі Анюты, нейкім дзівосным святлом прамяністы. І стала мне шкада, што не прывезла з сабой фотаапарат. Не ўпэўнена толькі, што ён здолеў бы злавіць гэтую цеплыню, тую, што запала ў маю душу назаўсёды. У цёткі Анюты сямёра дзяцей. Ніхто тут не застаўся.

— Пра што ты пішаш? — спытае мяне потым сяброўка ў мінскай сталоўцы. — Няўдала ж з'ездзіла, не знайшла чалавека.

— Ды пра вёску, пра людзей, што бачыла, — адкажу я і засумняваюся: — а што, думаеш, нецікава?

— Ну, гледзячы якая ідэя ў цябе будзе.

Ідэя. Ды ніякай ідэі няма. Ёсць толькі нешта невыразнае, што перапаўняе душу, не дае супакоіцца. Колькі напісана пра гэта. Ведаю. Падобнае адбываецца ледзь не з усімі намі, няшчаснымі гараджанамі, але напалову. Не, больш чым напалову, бо каранямі, генамі сваімі — мы вяскоўцы, калі мы вяртаемся туды. Няхай не на радзіму нават. Проста вяртаемся. Збочваем. Аглядаемся. І тым мацней гэта адчуваеш, чым больш безнадзейна страціў. Калі няма ўжо куды вяртацца. Да каго паехаць. Калі адчуваеш, што сэрца стала балюча-глыбокім дзякуючы гэтаму. Бо дрэвы, крыніца, пах печы — усё ўмясцілася ў ім. Няўжо ў дзяцей маіх нічога падобнага не будзе?

— І не нявестка, і нават не дзеўка! — смяялася я.

— Ну! — падхоплівала цётка Валя. — Не гавары.

Яна забіла пеўніка сама, бо хлопцаў не было, — бервяном, а потым патрымала яго за шыю, ён і супакоіўся. Певень быў малады, таму скубсці яго прыйшлося адразу ж, без дапамогі кіпеню. Я ўпершыню так скубла, увогуле нязвыклая да такой працы, таму доўга важдалася. Але цётка Валя пахваліла. Шчупака чысцілі ўжо ў прыцемках. Худы сабака цалкам праглынуў рыбіну галаву. А калі я ўжо клявала носам, гаспадыня паставіла перада мной поўную міску духмянай бабкі. Свініну, кажа, суседка дала. Я толькі рассмяялася.

— Заўтра падыму а палове пятай, разам з сынам пойдзеце на дызель, тут хвілін сорак ходу.

— Добра, — кажу, — хоць нагляджуся на вашу прыроду.

Яна ўстала без будзільніка. На стале стаяў курыны суп і патэльня з рыбай. У сумку яна паклала мне сушаныя баравікі, сушкі, смажанага шчупака з хлебам і літровую бутэльку малака. Мы пакрочылі. Але я нічога не ўбачыла. Было цёмна, хаця неба ўсыпана зоркамі. Але ішлі мы па лесе, ліхтарыка не было, зоркі закрывалі кроны дрэў. Я спачатку ішла ўсляпую, потым звыклася, стала бачыць пляму Валікавай спіны. Як арыентаваўся ён у цемры, аднаму Богу вядома. Мы паспяхова мінулі паваленае бурай дрэва, яму і некалькі канаў з вадой. Усё гэта нагадвала мне нейкі суперузровень камп'ютэрнай гульні, калі нервы напружаныя да краю і ўсё залежыць ад хуткасці рэакцыі. Але ў мяне быў выдатны праваднік.

Валянцін дызелем дабіраецца да работы ў Рэчыцу. Ён прыязджае туды за паўтары гадзіны да пачатку. Зімой прыйдзецца здымаць кватэру, тады лесам ужо не пройдзеш. Ён звыкся і за працу трымаецца, бо плацяць яму мільёнаў сем. Працуе з геафізікамі, шмат ходзіць, няцяжка, але першы месяц не мог раніцай нават на ногі стаць, балелі. Гаворыць: у Галоўках нават дыскатэка бывае па нядзелях, толькі там ніхто не таньчыць. А школа ў вёсцы прыгожая, вялікая, толькі пустая. Раней былі паралельныя класы, і ў кожным па сорак вучняў. Зараз па чатыры чалавекі.

— А радыяцыя, — кажу, — адчуваецца? Хварэюць людзі? — І запнулася, бо неяк няёмка стала, быццам дапусціла вялікую бестактоўнасць.

— Ды не, — паціскае плячамі няўпэўнена Валік.

— І то, — падхопліваю, — зараз усюды болей хварэюць.

Яму мо тут жыць, дзяцей гадаваць. Вунь маці хату прыглядвае ў вёсцы, ведае, што зараз няма куды адтуль ехаць.

*P. S. Што датычыцца прадмета маёй камандзіроўкі, дык пошук працягваецца, і чым ён скончыцца, чытайце ў наступных нумарах. Дарэчы, у мяне чамусьці не засталося адчування, што я з'ездзіла няўдала. Іншая справа, што разам з удзячнасцю і святлом пакінулі Галоўкі ў мяне прысмак горычы. Чаму? Мяркуйце самі.*

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

## ЯК ЖЫВЕШ, ГЕРОЙ?

Міхаіл Паўлавіч Бяганскі са Слаўгарадскага раёна — вядомы на Магілёўшчыне земляроб. Бульбаводчае звяно, якім ён кіраваў, на працягу многіх гадоў атрымлівала па 270—300 цэнтнераў клубняў з гектара. За гэта Міхаіл Бяганскі і быў удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы.

Сёння Міхаіл Паўлавіч проста пенсіянер, выбірае бульбу на ўласным агародзе.



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.

# ДОМ, ДЗЕ САГРАВАЮЦЦА СЭРЦЫ

ДА ІНТЭРНАЦКІХ у дзяцінстве мы заўсёды ставіліся адначасова пагардліва і са шкадаваннем. У нас, гарадскіх дзяцей, былі перавагі: кожны дзень мы вярталіся дамоў, дзе нас чакалі хатняя вячэра, калыханка па тэлевізару і абавязковая размова з бацькамі на тэму гатоўнасці да заўтрашніх урокаў. Вясковыя, што вучыліся ў сярэдняй школе райцэнтра, мелі ўсе гэтыя атрыбуты вучнёўскага жыцця толькі па выхадных. Пагарда, сёння я гэта дакладна разумею, з'яўлялася з-за таго, што ў дзіцячым уяўленні інтэрнат быць домам ніяк не мог.

Дзісненская школа-інтэрнат знаходзіцца ў невялікім (усяго 2,5 тысячы жыхароў) гарадку на Віцебшчыне. Можа, я памыляюся, але падаецца, што спецыялізаваныя дзіцячыя ўстановы часта размяшчалі ў ціхіх, аддаленых кропках рэспублікі. Па прынцыпу — з вачэй падалей ды з сэрца вон? Такая свайго роду ссылка.

Зрэшты, насельнікі школы-інтэрната ў Дзісне з падобнымі асацыяцыямі не змагаюцца. Ва ўсякім разе, пасля перыяду адаптацыі, які часта праходзіць са слязамі ды ўцёкамі, да бацькоў яны не імкнуцца. Выхавальнікі дзіцячых устаноў, дзе становяцца на ногі сацыяльныя сіроты, ведаюць, з якіх гнёздаў трапляюць сюды гэтыя птушаняты. Многім з іх даводзілася ехаць за сваім чарговым уцекачом, шлях якога, звычайна, вядзе дадому. А дома... Бруд, нярэдка адсутнасць мэблі, бялізны. Ды што бялізны — ежы. І п'яныя твары бацькоў. Гэта, можа, самае нізкае, самае ганебнае, што ёсць у сённяшнім грамадстве. Бытуе ж простае меркаванне: усе беды пачынаюцца з пляшкі. І немагчыма нават знайсці словы, каб выказаць тое пачуццё крыўды, адчаю, злосці за лёсы дзяцей, што сёння атрымліваюць «пасведчанне» сіраты пры жывых бацьках. За іх паламаныя лёсы.

Дзісненская школа-інтэрнат прытуліла 170 дзяцей з розных раёнаў Віцебскай вобласці. Згодна з праектам тут павінна знаходзіцца на 10 выхаванцаў меней. У гэтым навучальным годзе частку дзяцей планавалася перавесці ў новую выхаваўчую ўстанову. Праект пакуль не рэалізаваны на шчасце прэтэндэнтаў на пераезд. Яны ўпарцяцца і пагражаюць збегчы. Ім добра менавіта ў гэтым доме.

Хіба не лепшая ўзнагарода для выхавальнікаў пачуць такія словы? Значыць, нездарма аддаюць яны свае сілы і душы.

І аддаюць. Вядуць гурткі, ладзяць святы, ідуць у паходы, едуць на экскурсіі. Непрыемнасць толькі — дэфіцыт мужчын у калектыве. А педагагічнымі нормамі прадпісана, каб кожную групу вялі два выхавальнікі: мужчына і жанчына. Каб адбывалася гарманічнае развіццё. Але ж гэта нормы. На практыцы ў калектыве з пяцідзесяці выхавальнікаў толькі трое — мужчыны.

Зрэшты, некаторая аднабокасць развіцця не пазбавіла дзяцей магчымасці расці творча. Адны паспяхова малююць, другія «варожаць» з пруткамі ў руках, трэція — лобзікам арудуюць. Многія да археалагічных пошукаў здатныя. Усе знаходкі накіроўваюцца ў краязнаўчы музей, які амаль год таму адкрылі ў школе. Намаганнямі энтузіяста-гісторыка Льва Мікалаевіча Фурсава з'явіўся гэты скарб, што адразу стаў славутасцю Дзісны.

Вядома ж, як сыр у масле дзеці не катаюцца. Усё сціплае: абстаноўка ў пакоях, дзіцячая вопратка. Але ўсё акуратнае, чыстае, дагледжанае. Дзякуй шэфам з Наваполацкай ЦЭЦ — дапамаглі з рамонтам. Мясцовая ячэйка БПСМ на 1 верасня і Новы год ладзіць для дзісненскіх выхаванцаў школы-інтэрната свята з усімі яго атрыбутамі — падарункамі і цукеркамі.

— Канешне, хацелася б, каб быў у нас уласны аўтобус, — кажа дырэктар школы-інтэрната Тамара Сачыўка. — Каб дзяцей на адпачынак у лагеры вазіць. Яшчэ — электралобзік, швейную машынку б купіць — дзеці нашы такія рэчы робяць, што жадаючыя купіць іх знаходзяцца. Пакуль гэтыя мары не рэалізуюцца, але мы спадзяёмся на лепшае.

І я чамусьці веру, што гэтыя надзеі не марныя. У Дзісненскай школе-інтэрнаце, дзе ўсё неяк утульна, цёпла і па-сямейнаму, зараджаешся аптымізмам. Напэўна, інакш немагчыма. Напэўна, гэта тое, на чым і трымаецца гэты дом.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
г. Дзісна.

IМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункта 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, зацверджанага Міністэрствам сацыяльнай абароны і Міністэрствам працы 19 чэрвеня 1996 г., падпунктаў 5.2, 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Праўленнем Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь 12 красавіка 1994 г., раздзелаў 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы, зацверджанай Міністэрствам статыстыкі і аналізу 19 снежня 1994 г.**

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у складзе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага Суда Васілевіча Р.А., намесніка Старшыні Суда Марыскіна А.У., суддзяў Бойка Т.С., Вараб'я Г.А., Кенік К.І., Падгрушы В.В., Саркісавай Э.А., Філіпчык Р.І., Цікавенкі А.Г., Шабайлава В.І., Шукліна В.З.

з удзелам прадстаўнікоў бакоў:

Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь, унёсшага прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных актаў: Козыравай Л.Р. — суддзі Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь; Лунёва С.У. — начальніка аддзела заканадаўства ўпраўлення заканадаўства і міжнародных адносінаў Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь;

Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь: Бачыла Л.Ц. — намесніка міністра — кіраўніка Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь; Мурашкевіч Н.У. — намесніка начальніка ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь;

Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь: Паўлава В.І. — першага намесніка міністра працы Рэспублікі Беларусь;

Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь: Сілуцінай Л.А. — начальніка аддзела арганізацыі персаніфікаванага ўліку Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь; Саладоўчанкі А.С. — начальніка аддзела арганізацыйна-прававой работы і кадраў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь; Далідовіч Т.І. — галоўнага юрысконсульта аддзела арганізацыйна-прававой работы і кадраў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь;

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь: Нічыпаровіча У.М. — міністра статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь; Гасюк Г.І. — намесніка міністра статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь; Кісялёвай К.Я. — намесніка начальніка ўпраўлення статыстыкі працы Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь; Мельнікавай С.Г. — намесніка начальніка ўпраўлення статыстыкі працы Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункта 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, зацверджанага Міністэрствам сацыяльнай абароны і Міністэрствам працы 19 чэрвеня 1996 г., падпунктаў 5.2, 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Праўленнем Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь 12 красавіка 1994 г., раздзелаў 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы, зацверджанай Міністэрствам статыстыкі і аналізу 19 снежня 1994 г.»

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Міранічэнка І.А. — намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь; Ждановіч І.Н. — намеснік старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь; Валюшка В.М. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь; Сяргеева В.Г. — намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вядзенне па справе ўзбуджана Канстытуцыйным Судом 24 ліпеня 1998 г. па прапанове Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь на падставе артыкула 116 Канстытуцыі, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» і артыкула 43 Рэгламента Канстытуцыйнага Суда.

Праверцы падлягалі падпункты 5.2, 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Праўленнем Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь 12 красавіка 1994 г., зарэгістраванай у Рэестры дзяржаўнай рэгістрацыі нарматыўных актаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і Нацыянальнага банка 29 красавіка 1994 г., рэгістрацыйны № 341/12 (Бюлетэнь нарматыўна-прававой інфармацыі, 1994, № 7); пункт 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, зацверджанага Міністэрствам сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам працы Рэспублікі Беларусь 19 чэрвеня 1996 г., зарэгістраванага ў Рэестры дзяржаўнай рэгістрацыі нарматыўных актаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і Нацыянальнага банка 26 чэрвеня 1996 г., рэгістрацыйны № 1485/12 (Бюлетэнь нарматыўна-прававой інфармацыі, 1996, № 8); раздзелы 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы, зацверджанай Міністэрствам статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь 19 снежня 1994 г. па ўзгадненню з Міністэрствам працы, Міністэрствам эканомікі, Міністэрствам фінансаў, Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

У прапанове Вышэйшага Гаспадарчага Суда ўказваецца, што ў падпунктах 5.2, 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь ёсць супярэчнасці, аналагічныя тым, што ўтрымліваюцца і ў некаторых законах. У Законе «Аб пенсіённым забеспячэнні» ў якасці аб'екту абкладання страхавымі ўзносамі ўказаны фонд аплаты працы, а ў Законе «Аб памерах абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь» — фонд заработнай платы. Па меркаванню Вышэйшага Гаспадарчага Суда, гэтыя паняцці адрозніваюцца.

Вышэйшы Гаспадарчы Суд указаў таксама, што Інструкцыя па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы не зарэгістравана ў Рэестры дзяржаўнай рэгістрацыі Рэспублікі Беларусь, як гэта было прадугледжана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13 мая 1993 г. № 316, зацвердзіўшай Палажэнне аб парадку дзяржаўнай рэгістрацыі нарматыўных актаў міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, якое дзейнічала на момант прыняцця ўказанай Інструкцыі. У сувязі з гэтым Вышэйшы Гаспадарчы Суд лічыць, што Інструкцыя па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы не мае юрыдычнай сілы і таму перанясенне палажэнняў дадзенай Інструкцыі ў Пералік відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню (пункт 25), не заснавана на нарматыўнай базе.

Заслухаўшы суддзю-дакладчыка Бойка Т.С., прадстаўнікоў бакоў, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны Суд адзначае наступнае.

1. Згодна з артыкулам 1 Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь з'яўляецца сацыяльнай дзяржавай. У артыкуле 47 Канстытуцыі, у прыватнасці, устаноўлена, што грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы, інваліднасці, страты працаздольнасці, страты карміцеля і ў іншых выпадках, прадугледжаных законам.

Для забеспячэння сацыяльных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь, замацаваных і гарантаваных Канстытуцыяй, у рэспубліцы ў адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 10 чэрвеня 1993 г. на базе Пенсіённага фонду і Фонду сацыяльнага страхавання быў створаны Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь (у цяперашні час — Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь). Гэтай жа пастановай быў зацверджаны Парадак выплаты страхавых узносаў наймальнікамі, асобамі, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, і грамадзянамі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь (у далейшым — Парадак выплаты страхавых узносаў), які дзейнічае і ў цяперашні час.

Грашовыя сродкі Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь (у далейшым — Фонд сацыяльнай абароны) фарміруюцца ў асноўным за кошт абавязковых страхавых узносаў. Абавязковыя страхавыя ўзносы, таксама як падаткі і зборы, з' яўляюцца абавязковымі адлічэннямі грашовых сродкаў ад плацельшчыкаў у вызначаных законам памерах. У цяперашні час памеры гэтых узносаў устаноўлены Законам «Аб памерах абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь».

Аналіз зместу нормаў парадку рэгістрацыі плацельшчыкаў абавязковых страхавых узносаў, парадку і тэрмінаў іх выплаты, адказнасці, якая прымяняецца да плацельшчыкаў узносаў, сведчыць аб падабенстве страхавых узносаў з падатковымі плацяжамі, а іх мэтавы характар — са зборамі.

Грашовыя сродкі Фонду сацыяльнай абароны з' яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю і ўключаюцца ў фінансава-крэдытную сістэму Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з часткай другой артыкула 132 Канстытуцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праводзіцца адзіная бюджэтна-фінансавая, падатковая, грашова-крэдытная, валютная палітыка. У сувязі з гэтым Канстытуцыйны Суд лічыць, што пры ўстанаўленні абавязковых страхавых узносаў заканадаўцам павінен забяспечвацца такі ж падыход, як і пры рэгуляванні падатковых адносінаў. Таму вызначэнне такіх важнейшых элементаў абавязковых страхавых узносаў, як кола плацельшчыкаў, аб'ект, склад аб'екту, памеры плацяжоў, ільготы павінна ажыццяўляцца на заканадаўчым узроўні.

2. Інструкцыя аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь (у далейшым — Інструкцыя аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў) зацверджана Праўленнем Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Права на зацвярджэнне дадзенай Інструкцыі па ўзгадненню з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі было прадастаўлена Праўленню Фонду пунктам 8 Парадку выплаты страхавых узносаў.

У правяраемым падпункце 5.2 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў устаноўлена, што страхавыя ўзносы налічваюцца на ўсе віды аплаты працы, з якіх у адпаведнасці з Законам «Аб пенсіённым забеспячэнні» вылічваецца пенсія, а таксама на сумы аўтарскага ганарару, выплачваемага членам творчых саюзаў і іншым творчым работнікам, якія не з' яўляюцца членамі творчых саюзаў, і ўзнагароджанні за выкананне работы па дагаворах падраду і даручэння. У дадзеным падпункце Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў фактычна ўзнаўляюцца палажэнні пункта 3 Парадку выплаты страхавых узносаў, дзе таксама прадугледжваецца налічэнне страхавых узносаў на ўсе віды аплаты працы, з якіх у адпаведнасці з Законам «Аб пенсіённым забеспячэнні» вылічваецца пенсія, а таксама на сумы аўтарскага ганарару і ўзнагароджанні за выкананне работы па дагаворах падраду і даручэння.

Канстытуцыйны Суд звяртае ўвагу на разыходжанне тэрмінаў, якія выкарыстоўваюцца ў падпункце 5.2 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў і ў заканадаўстве аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні для вызначэння аб'ектаў абкладання абавязковымі страхавымі ўзносамі. У правяраемым падпункце 5.2 указанай Інструкцыі ўжываецца тэрмін «усе віды аплаты працы». У заканадаўчых жа актах нараўне з «відамі аплаты працы» прымяняліся тэрміны «фонд аплаты працы», «заработная плата», а ў цяперашні час — «фонд заработнай платы», «заработак». Выкарыстанне ў заканадаўстве розных тэрмінаў для вызначэння фактычна адных і тых жа аб'ектаў прыводзіць на практыцы да неадназначнага тлумачэння зместу адпаведных палажэнняў нарматыўных актаў. Канстытуцыйны Суд лічыць, што ў нарматыўных актах, рэгулюючых пытанні ўстанаўлення абавязковых страхавых узносаў, іх памеры, парадак збірання, вылічэння і выплаты, павінна ўжывацца адзіная тэрміналогія.

Згодна з часткай другой артыкула 7 Закона «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання» пры ўмове выплаты страхавых узносаў дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне распаўсюджваецца на прадпрымальнікаў, работнікаў, якія працуюць па дагаворах падраду, членаў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, творчых работнікаў, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія працуюць у Рэспубліцы Беларусь. Гэта значыць пасля прыняцця дадзенай нормы выплата страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны для ўказанай катэгорыі плацельшчыкаў стала добраахвотнай.

Кіруючыся артыкуламі 7 і 137 Канстытуцыі, Канстытуцыйны Суд прыйшоў да высновы, што правяраемы падпункт 5.2 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у дачыненні да абавязковага налічэння страхавых узносаў на сумы аўтарскага ганарару, выплачваемага членам творчых саюзаў і іншым творчым работнікам, якія не з'яўляюцца членамі творчых саюзаў, і ўзнагароджанні за выкананне работы па дагаворах падраду і даручэння не стасуецца з нормамі Закона «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», паколькі ў цяперашні час дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне распаўсюджваецца на гэту катэгорыю плацельшчыкаў толькі пры ўмове выплаты імі страхавых узносаў.

Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, такое палажэнне стала магчымым у сілу таго, што дзеючыя нарматыўныя акты своечасова не пераглядаюцца ў сувязі з прыняццем акта, валодаючага больш высокай юрыдычнай сілай, і не прыводзяцца ў адпаведнасць з ім. Нягледзячы на адпаведныя даручэнні, якія ўтрымліваюцца ў пераходных палажэннях Закона «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», Парадак выплаты страхавых узносаў, Інструкцыя аб парадку збірання і выплаты страхавых узносаў не былі прыведзены ў адпаведнасць з гэтым Законам.

Канстытуцыйны Суд таксама звяртае ўвагу, што правяраемы падпункт 5.2 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў для вызначэння ўсіх відаў аплаты працы, на якія налічваюцца страхавыя ўзносы, адсылае да Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні». Аналагічная адсылачная норма ўтрымліваецца і ў пункце 3 Парадку выплаты страхавых узносаў. У сваю чаргу, частка першая артыкула 58 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» для вызначэння відаў выплат, уключаемых у заработак, адсылае да дзеючых правілаў налічэння страхавых узносаў. Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда, наяўнасць такіх узаемных адсылачных палажэнняў у заканадаўстве недапушчальна.

У правяраемым падпункце 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў устаноўлена, што страхавыя ўзносы налічваюцца на ўсе віды заработку (даходу), вызначанага дадзеным наймальнікам у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, без выліку з яго ўтрыманняў і падаткаў. Пры гэтым не маюць значэння крыніцы фінансавання ўказаных выплат, артыкулы і віды плацежных дакументаў (разлікова-плацежныя ведамасці, асабовыя рахункі і т.п.) дакументы, па якіх былі зроблены разлікі па заработку (даходу) і формы выплат (грашовая, натуральная, у выглядзе каштоўных папер і інш.).

Паколькі прымяненне палажэнняў, якія ўтрымліваюцца ў падпункце 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў, павінна ажыццяўляцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, Канстытуцыйны Суд лічыць, што падстаў для прызнання гэтага падпункта неканстытуцыйным няма.

3. У правяраемых раздзелах 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы (у далейшым — Інструкцыі па статыстыцы) вызначаюцца адпаведна склад фонду заработнай платы, заработная плата ў грашовай і натуральнай формах.

У Законе «Аб памерах абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь» у якасці аб'ектаў абавязковых страхавых узносаў названы фонд заработнай платы і заработак, аднак не вызначаны склад гэтых аб'ектаў, а таксама не ўрэгулявана пытанне аб ільготах па дадзеных аб'ектах, не ўстаноўлена, якія выплаты трэба, а якія не трэба ўключаць у фонд заработнай платы або ў заработак, на якія не павінны налічвацца страхавыя ўзносы. Не ўтрымлівае ўказаны Закон і даручэння адпаведным дзяржаўным органам урэгуляваць дадзеныя пытанні ў падзаконных актах, як, напрыклад, гэта зроблена ў законах аб бюджэце на 1997, 1998 гг. адносна аб'екту абкладання надзвычайным падаткам.

Інструкцыя па статыстыцы прызначана для кіраўніцтва пры складанні справаздачнасці па працы прадпрыемствамі, аб'яднаннямі, установамі, калгасамі і іншымі арганізацыямі незалежна ад формы ўласнасці. Указаная Інструкцыя была апублікавана ў «Нацыянальнай эканамічнай газеце» (1995, № 3).

Інструкцыю па статыстыцы сталі прымяняць для вызначэння складу фонду заработнай платы, заработнай платы ў грашовай і натуральнай формах пры налічэнні абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны і пры вызначэнні складу фонду заработнай платы для мэтаў падаткаабкладання. Так, пастановай Урада Рэспублікі Беларусь ад 11 чэрвеня 1996 г. № 384 «Аб мерах па рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» было ўстаноўлена, што ў 1996 годзе надзвычайны падатак вылічваецца ад фонду заработнай платы, які вызначаецца ў адпаведнасці з Інструкцыяй па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы. Аналагічныя адсылкі на ўказаную Інструкцыю ўтрымліваюцца таксама ў іншых пастановах Урада — ад 26 мая 1997 г. № 580 і ад 27 лютага 1998 г. № 310, якія былі прыняты ў адпаведнасці з даручэннем заканадаўчага органа.

Канстытуцыйны Суд лічыць, што склад аб'ектаў для налічэння абавязковых страхавых узносаў (склад фонду заработнай платы, склад заработку) таксама павінен быць устаноўлены самім заканадаўцам або ў вызначаемым ім парадку.

Адначасова Канстытуцыйны Суд звяртае ўвагу, што Інструкцыя па статыстыцы не зарэгістравана ў Рэестры дзяржаўнай рэгістрацыі нарматыўных актаў рэспубліканскіх органаў Дзяржаўнага кіравання і Нацыянальнага банка, хаця валодае ўсімі прыметамі нарматыўнага акта, які носіць міжведамасны характар.

У артыкуле 14 Закона «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» было ўстаноўлена, што нарматыўныя акты міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання Рэспублікі Беларусь, прынятыя ў межах іх кампетэнцыі, якія датычацца прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў іншай формы ўласнасці іншага падпарадкавання або грамадзян, з'яўляюцца абавязковымі для выканання пры ўмове, калі гэтыя акты зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Аналагічныя палажэнні ўтрымліваюцца і ў артыкуле 12 дзеючага Закона «Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і падпарадкаваных яму дзяржаўных органах».

Міністэрства статыстыкі і аналізу ў межах сваёй кампетэнцыі і ў адпаведнасці з заканадаўствам выдае ва ўстаноўленым парадку загады і інструкцыі па пытаннях статыстыкі, абавязковыя да выканання ўсімі міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, а таксама суб'ектамі гаспадарання, якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (падпункт 7.2 Палажэння аб Міністэрстве статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, зацверджанага пастановай Урада Рэспублікі Беларусь ад 18 студзеня 1996 г. № 46).

На момант зацвярджэння Інструкцыі па статыстыцы дзейнічала Палажэнне аб парадку дзяржаўнай рэгістрацыі нарматыўных актаў міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, зацверджанае пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13 мая 1993 г. № 316, згодна з якім нарматыўныя акты міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, якія датычацца правоў, свабод і абавязкаў грамадзян або носяць міжведамасны характар, незалежна ад тэрміну іх дзеяння (пастаянныя або часовыя) і характару звестак, што ў іх утрымліваюцца, падлягалі дзяржаўнай рэгістрацыі. Акрамя таго, у адпаведнасці з пунктам 10 указанага Палажэння нарматыўныя акты міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў уступалі ў сілу з дня іх дзяржаўнай рэгістрацыі, калі ў самім акце не ўстаноўлены іншы тэрмін.

Аналагічныя патрабаванні ўтрымліваюцца і ў дзеючай пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 1 красавіка 1998 г. № 512 «Аб дзяржаўнай рэгістрацыі нарматыўных актаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і Нацыянальнага банка».

З улікам выкладзенага Канстытуцыйны Суд лічыць, што Інструкцыя па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы падлягае дзяржаўнай рэгістрацыі.

4. У правяраемым пункце 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню (у далейшым — Пералік), вызначана, што ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню не налічваюцца на сумы матэрыяльнай дапамогі работнікам, выплачваемыя з сродкаў наймальніка, на вартасць бясплатных або льготных пуцёвак (курсовак) і на іншыя выплаты ў мэтах сацыяльнай абароны работнікаў па месцы асноўнай работы ў межах, не перавышаючых у сукупнасці 15 мінімальных заработных плат у год (кожнаму работніку, на момант налічэння).

Указаны Пералік быў зацверджаны 24 чэрвеня 1994 г. пастановай Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь. У цяперашні час Пералік дзейнічае ў новай рэдакцыі ад 19 чэрвеня 1996 г. Органы, якія прымалі ўдзел у зацвярджэнні Пераліку, абгрунтоўваюць сваё права на яго прыняцце ссылкамі на пункт 8 Парадку выплаты страхавых узносаў, які прадаставіў Фонду сацыяльнай абароны права на зацвярджэнне Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў, і на падпункт 5.4 указанай Інструкцыі, які ўстанавіў, што Пералік відаў выплат, на якія не налічваюцца страхавыя ўзносы, зацвярджаецца Дзяржкампрацай Рэспублікі Беларусь.

Прааналізаваўшы нормы Парадку выплаты страхавых узносаў, законаў «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», «Аб памерах абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь» і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны Суд прыйшоў да высновы, што Праўленню Фонду сацыяльнай абароны не прадастаўлялася права вызначаць віды выплат, на якія не налічваюцца страхавыя ўзносы, а таксама на дэлегаванне такіх паўнамоцтваў Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь.

Зыходзячы з вынікаў праверкі канстытуцыйнасці падпунктаў 5.2, 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, пункта 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, раздзелаў 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы, Канстытуцыйны Суд лічыць, што паколькі пытанні складу аб'ектаў абавязковых страхавых узносаў, устанаўлення відаў выплат, на якія не налічваюцца страхавыя ўзносы (ільготы па аб'екту) закранаюць такія канстытуцыйныя правы грамадзян, як права ўласнасці (артыкулы 13 і 44 Канстытуцыі), права на сацыяльнае забеспячэнне (артыкул 47 Канстытуцыі) і канстытуцыйны абавязак грамадзян прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў (артыкул 56 Канстытуцыі), то рэгуляванне гэтых пытанняў павінна ажыццяўляцца на аснове заканадаўчых актаў, а не актаў міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання.

З улікам рэальных магчымасцяў падрыхтоўкі і прыняцця адпаведных нарматыўных актаў і ў мэтах выключэння прабелаў у прававым рэгуляванні Канстытуцыйны Суд у адпаведнасці з артыкулам 9 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» лічыць неабходным вызначыць тэрмін, на працягу якога правераныя нормы, прызнаныя неканстытуцыйнымі, захоўваюць сваю сілу, з тым каб заканадавец і іншыя органы дзяржаўнай улады ў межах іх кампетэнцыі змаглі прывесці гэтыя нормы ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкулам 116 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 34, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны Суд

В Ы Р А Ш Ы Ў:

1. Прызнаць падпункт 5.2 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь не адпавядаючым Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь у дачыненні да абавязковага налічэння страхавых узносаў на сумы аўтарскага ганарару, выплачваемага членам творчых саюзаў і іншым творчым работнікам, якія не з'яўляюцца членамі творчых саюзаў, і ўзнагароджанні за выкананне работы па дагаворах падраду і даручэння, паколькі ў гэтай частцы падпункта прадугледжваецца абавязковасць налічэння страхавых узносаў для творчых работнікаў і асоб, якія працуюць па дагаворах падраду і даручэння, тады як у адпаведнасці з часткай другой артыкула 7 Закона «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання» дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне распаўсюджваецца на гэту катэгорыю плацельшчыкаў толькі пры ўмове выплаты імі страхавых узносаў.

Лічыць падпункт 5.2 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь ва ўказанай частцы страціўшым сілу з дня ўвядзення ў дзеянне Закона «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», гэта значыць з 1 красавіка 1995 г.

2. Прызнаць падпункт 5.3 Інструкцыі аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь адпавядаючым Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

3. Прызнаць пункт 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, не адпавядаючым Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з таго, што рэгуляванне пытанняў, якія ў ім утрымліваюцца, не аднесена ва ўстаноўленым парадку да кампетэнцыі міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання.

Улічваючы, што бюджэт Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь зацвярджаецца Урадам Рэспублікі Беларусь на чарговы каляндарны год, як правіла, у канцы бягучага года, лічыць пункт 25 Пераліку відаў выплат, на якія не налічваюцца ўзносы па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, страціўшым сілу з 1 студзеня 1999 г.

4. Прызнаць раздзелы 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы не адпавядаючымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь, паколькі Інструкцыя не прайшла дзяржаўную рэгістрацыю і тым самым быў парушаны ўстаноўлены ў заканадаўстве парадак уступлення ў сілу нарматыўных актаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання.

Раздзелы 9, 10, 11 Інструкцыі па статыстыцы колькасці работнікаў і заработнай платы для вызначэння складу фонду заработнай платы, заработнай платы ў грашовай і натуральнай формах пры налічэнні абавязковых страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь не падлягаюць прымяненню з 1 студзеня 1999 г.

5. Прапанаваць Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь да 31 снежня 1998 г. упарадкаваць заканадаўства, рэгулюючае дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, з улікам гэтага Заключэння.

6. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце» і «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

7. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня абвяшчэння, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Р.А.ВАСІЛЕВІЧ**

24 верасня 1998 г., г. Мінск № З-71/98

# БЕЛАРУСКІ НАК ЗАКЛАДВАЕ «АЛІМПІЙСКУЮ ВЁСКУ»

На праспекце Машэрава ў раёне Акадэміі фізічнага выхавання і спорту ў Мінску 5 кастрычніка будзе закладзены першы камень у будаўніцтва «алімпійскай вёскі». Мяркуецца, што ў гэтай урачыстай цырымоніі прыме ўдзел кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, які з'яўляецца таксама прэзідэнтам НАК рэспублікі.

— Ідэя стварэння спецыяльнага жылога комплексу для нашых алімпійцаў, — расказвае выканаўчы дырэктар алімпійскага камітэта Яраслаў Барычка, — нарадзілася ў час Алімпіяды ў Нагана. У адной з тэлеграм у адрас нашай спартыўнай дэлегацыі генеральны дырэктар Бабруйскага завода буйнапанельнага домабудавання Марыя Вінакурава паведаміла, што калектыў прадпрыемства вырашыў падарыць аднаму з «беларускіх герояў» Нагана трохпакаёвую кватэру. Праграму «Жыллё для алімпійцаў» адобрыў і падтрымаў Аляксандр Рыгоравіч, які знаходзіўся тады разам з намі. Так бабруйскі пачын набыў рэспубліканскі маштаб.

Паводле слоў выканаўчага дырэктара НАК, плануецца, што да студзеня наступнага года будзе ўзведзены каркас першага дзевяціпавярховага дома. Усяго ж для лепшых беларускіх спартсменаў, вядучых спецыялістаў і трэнераў пабудуюць чатыры дамы — 276 добраўпарадкаваных кватэр. Будаўніцтва, у якім прымаюць удзел многія спонсарскія арганізацыі і камбінаты, разлічана на 2-2,5 года.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

# ДЫК БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ АЭС У БЕЛАРУСІ?

**У сярэдзіне кастрычніка ў Нацыянальнай акадэміі навук адбудзецца дыскусія, якая паставіць усе кропкі над «і» ў зацяжной спрэчцы наконт будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі.**

Пакуль жа над гэтым пытаннем ўпарта працуе створаная па даручэнню Савета Міністраў камісія па ацэнцы мэтазгоднасці развіцця ў нашай краіне атамнай энергетыкі. І чым бліжэй тэрмін прыняцця канкрэтнага рашэння, тым больш гарачыя дэбаты. Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі змаглі пераканацца ў гэтым, пабываўшы на праведзеным у Нацыянальным прэс-цэнтры пасяджэнні «круглага стала».

У ім прынялі ўдзел вядучыя айчынныя спецыялісты па пытаннях энергетыкі — намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Руслан Ігнацішчаў, прафесар Георгій Лепін, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Васіль Несцярэнка, загадчык лабараторыі Інстытута праблем энергетыкі Аляксандр Міхалевіч.

Калі сцісла перадаць сутнасць праведзеных дэбатаў, то яна заключаецца ў наступным. Ініцыятары будаўніцтва АЭС, ад імя якіх выступаў Аляксандр Міхалевіч, лічаць гэту крыніцу атрымання электраэнергіі высокаэфектыўнай, параўнальна таннай і бяспечнай. Іх апаненты заклікаюць да разважнасці, абапіраючыся перш за ўсё на страшныя ўрокі Чарнобыля. Прыхільнікі будаўніцтва АЭС апраўдваюць сваю пазіцыю неабходнасцю ўзмацнення энергазабяспечанасці рэспублікі ў разліку на далейшы ўздым эканомікі. Праціўнікі ж абвяргаюць гэты аргумент, даказваючы, што адна АЭС не вырашыць у Беларусі ўсе энергетычныя праблемы, а ляжа цяжкім грузам на бюджэт, бо на яе будаўніцтва на працягу прыкладна дзесяці гадоў прыйдзецца выкладваць у сярэднім па 500 мільёнаў долараў у год.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*ТЭЛЕЛОЦЫЯ*

# БТ АБ'ЯЎЛЯЕ ВАЙНУ «РАЗМЫШЛИЗМАМ», АДНАК ЗІМОЎСКАМУ ЗАГАДАНА РАЎНЯЦЦА НА КІСЯЛЁВА

***Здзейснілася! Новая сетка інфармацыйнага вяшчання, якой нас так доўга пужала Беларускае тэлебачанне, урэшце пачала дзейнічаць. Кастрычнік сустрэў гледача выпускамі навін праз кожныя 2 гадзіны (дзевяць разоў у дзень). Перамены на БТ па просьбе карэспандэнта «Звязды» каменціруе галоўны рэдактар службы інфармацыі тэлебачання Уладзімір МАРТЫНАЎ:***

— Такая шчыльная інфармацыйная сетка з'яўляецца агульнапрынятым еўрапейскім стандартам. Дзякаваць Богу, надышоў-такі час, калі і ў нас, у Беларусі, багацце інфармацыі супала з новымі тэхнічнымі магчымасцямі тэлебачання. Па-першае, БТ нарэшце адкрыла ўласныя карэспандэнцкія пункты ў кожным з абласных цэнтраў, што дало магчымасць атрымліваць адтуль «гарачыя» рэпартажы літаральна на любую тэму. Па-другое, стараннямі кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі ў Агенцтва тэлевізійных навін з'явілася звышсучаснае студыйнае абсталяванне, у тым ліку цудоўная апаратура для мантажу, відэакамеры экстракласа (кошт кожнай з якіх, між іншым, перавышае 50 тысяч долараў). Набыты таксама новыя, цалкам укамплектаваныя мікрааўтобусы «Форд». Усё гэта дазваляе сёння ў аператыўным рэжыме ісці ўслед за падзеяй.

Галоўную канцэпцыю сучаснага інфармацыйнага вяшчання можна акрэсліць як «навіна ў развіцці». Плюс, канечне, выніковая «навінная» перадача напрыканцы дня — «Панарама». Заўважу, гэта будзе не ранейшая «Піларама», як нас справядліва называлі некаторыя гледачы, а дынамічная 35-хвілінная праграма-квінтэсенцыя, без «размышлизмов». Яе дэвіз — «толькі факты». А ўжо каментарыі да іх дасць штодзённая аналітычная перадача «Падзея», што выйдзе ў эфір адразу ж пасля «Панарамы».

Па словах спадара Мартынава, правобразам «Падзеі» была папулярная некалі «Тэма дня». Весці 10-хвілінны нататвор стануць па чарзе Ігар Філіпенка і Юрый Казіятка. Што ж датычыць «Навін», то цэлы дзень (з 7 да 19 гадзін) у прамым эфіры плануецца «дзяжурства» аднаго журналіста. Гэта, лічаць на тэлебачанні, мэтазгодна, бо такі вядучы будзе ўвесь час «сядзець на падзеі».

— Нашай галоўнай задачай было, — працягвае Уладзімір Мартынаў, — у паменшаным аб'ёме часу захаваць тую ж колькасць інфармацыі. Рэпартажы сталі карацейшымі, але больш дынамічнымі і змястоўнымі. У бліжэйшы час новы графік навінных праграм будзе дзейнічаць толькі па будных днях. Але да наступнага года плануем павялічыць колькасць інфармацыйных выпускаў і ў выхадныя дні.

**— Ці закрануць тэлевізійныя рэформы галоўную тыднёвую аналітычную перадачу «Рэзананс»?**

— «Рэзананс», на маю думку, патрабуе пэўнай рэканструкцыі. Хацелася б, каб ён утрымліваў больш аналізу (гэткі антыпод інфармацыйным «Навінам»). Прычым, каб вядучы (а ў гэтую нядзелю пасля адпачынку зноў на экране з'явіцца Аляксандр Зімоўскі) прыцягваў да размовы як мага больш экспертаў, палітыкаў. Па прыкладу «Вынікаў» Яўгена Кісялёва, калі ў студыю запрашаюцца прадстаўнікі расійскай эліты і яны разам з вядучым доўга, але плённа абмяркоўваюць нават самыя неверагодныя варыянты развіцця той ці іншай сітуацыі...

**— У сувязі з новай інфармацыйнай палітыкай, напэўна, будзе пашыраны штат замежных карэспандэнтаў БТ?**

— Мы даволі паспяхова вялі перамовы з Масквой, Кіевам, Варшавай аб адкрыцці там беларускіх карпунктаў. Аднак усё зноў звялося да недахвату сродкаў. На жаль, пакуль не існуе беларускага погляду на сусветныя падзеі, і нашы гледачы назіраюць за імі па матэрыялах Euronews ды расійскіх агенцтваў.

**— Пэўнае кола чытачоў «Звязды» цікавіць, ці застануцца ў эфіры «Навіны» з сурдаперакладам?**

— Так. Але выходзяць яны цяпер не ў 18 гадзін, як раней, а ў 17.00.

**Вядучы рубрыкі Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

*ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

# ХТО КАГО НАГНЕ, ТОЙ ТАГО ПАБ'Е

***Міжволі мне прыйшла ў галаву гэта прымаўка, калі я пазнаёміўся з Генадзем Дзмітрыевічам Захаранкам. Асабліва з яго праблемай. Яна тая ж, што і ў героя матэрыялу «Здрада» («Звязда» ад 16 верасня 1998 г.) Фёдара Цяліцы — абодвум органы сацыяльнай абароны адмовіліся залічваць у працоўны стаж гады, адпрацаваныя яшчэ падлеткамі ў калгасе. Што цікава, практычна ў той жа час — з 1949 па 1955 год.***

***Больш таго, гістарычна-дакументальныя вышуканні Генадзя Дзмітрыевіча дазваляюць асвятліць праблему шырэй. Што я пастараюся і зрабіць.***

## ШЛЯХ ДА ПЕНСІІ

У 1949 годзе Генадзю Захаранку было адзінаццаць гадоў. Паколькі тады асабліва не цікавіліся жаданнем дзяцей калгасніка, хлопчык летам працаваў у калгасе прымусова-добраахвотна: пасвіў коней.

У 1955 годзе яго забралі ў рамеснае вучылішча — скончыў добра па спецыяльнасці «слесар па рамонту прамысловага абсталявання». Далей былі курсы пры аэраклубе, паступленне ў ваеннае вучылішча лётчыкаў марской авіяцыі. Выпуск быў у маі 1959-га, а ў снежні Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў аддаў загад скараціць армію на 1 мільён 200 тысяч чалавек, і наваспечаны лейтэнант, не паспеўшы абмяць пагоны, стаў цывільным чалавекам. У прынцыпе, яму яшчэ пашанцавала: былыя франтавікі, якім заставалася да пенсіі паўгода-год, плакалі — дзяржава выдавала ім пад'ёмныя і — вось табе Бог, а вось парог.

Генадзь жа вярнуўся ў Мінск, пайшоў на завод рухавікоў, паступіў на вячэрні факультэт тэхналагічнага інстытута, ажаніўся — карацей, не згубіўся. Ад слесара ён дарос да старшага інжынера завода, прайшоўшы ўсе ступені. Далей быў завод «Міон», пасада галоўнага механіка: ён кіраваў 140 інжынерамі і 1200 рабочымі. Потым завод увайшоў у састаў «Інтэграла». Адтуль Захаранка пайшоў дырэктарам на новы завод — вопытны аграпрама СССР.

Адначасова ў вольны час займаўся навукай. Тут такія дасягненні: дзве кніжкі па атамнай дыфузіі металаў, каля 100 навуковых друкаваных работ у нашых і замежных часопісах, 26 аўтарскіх пасведчанняў на вынаходніцтвы, абароненая ступень кандыдата навук, падрыхтоўка доктарскай дысертацыі, залатыя і сярэбраныя медалі ВДНГ СССР. Яго вынаходніцтвы пачалі ўкараняць. Праўда, у Англіі і ЗША.

Вось такі чалавек, такі жыццёвы шлях. Генадзю Дзмітрыевічу, дарэчы, прапанавалі паступіць у вышэйшую партыйную школу — там бы ён зрабіў кар'еру больш гучную. Ён адмовіўся. Генадзь Дзмітрыевіч кажа, што заўсёды жадаў займацца справай.

Яго працоўны стаж налічвае 42 гады 11 месяцаў і 20 дзён. Каб пенсія была крыху большай, не хапіла нейкіх дзён. Калгасны стаж яму залічылі за адзін год. Пенсія ў Захаранкі — 2 мільёны 100 тысяч. Адна яго знаёмая, якая ўсё жыццё праседзела ў канторы, блізкай да выканаўчай улады, і складала паперкі, атрымлівае на мільён больш. Генадзь Дзмітрыевіч не хоча лічыць чужыя грошы і засяроджвацца на пытанні: хто чаго заслугоўвае.

Яму крыўдна таму, што яго і тысячы такіх жа, калі прыйшла пара падводзіць вынікі, — абдурылі. І ён бярэцца гэта даказаць. На ўзроўні Міністэрства сацыяльнай абароны.

## ЖЫЦЦЁ НА ПЕНСІІ

Найперш, думаю, трэба нагадаць вось што: работа ў якасці члена калгаса да 1 студзеня 1966 года залічваецца ў стаж за год незалежна ад таго, выпрацаваў чалавек неабходны мінімум працадзён ці не. Пры гэтым у тых, хто застаўся далей працаваць у калгасе, так і было, калі ж чалавек з вёскі з'язджаў — праблемы са стажам узнікалі. Цікавая акалічнасць, і ніжэй я да яе вярнуся.

Тым часам, Генадзь Дзмітрыевіч пачаў збіраць паперы для афармлення пенсіі. Напісаў у свой былы калгас «Перамога» Чэрвеньскага раёна. Старшыня калгаса Слесараў адказаў, што архіў згарэў, прадаставіць выпіскі аб прыняцці Захаранкі ў члены калгаса ў 1952 годзе не можа. Аб прызыве ў рамеснае вучылішча — таксама. Удалося атрымаць толькі даведку аб выпрацоўцы працадзён, прычым за 1949—1951 гг. працадзён Захаранку не налічана (што ёсць лухта), а за астатнія гады — ад 2 да 75. Ну і нават не ў гэтым справа. Справа ў тым, што ніякіх дакументаў і не магло захавацца. Нават маці Генадзя Дзмітрыевіча не пісала заяву ў калгас, тым не менш, у 1967 годзе ёй выдалі працоўную кніжку. Бацька, той заяву пісаў, але бацька загінуў на вайне.

Захаранка звярнуўся ў Міністэрства сацыяльнай абароны. І тут пачынаецца самае цікавае. Органы сацыяльнай абароны, аказваецца, пры назначэнні пенсіі кіруюцца прыкладнымі статутамі калгасаў, прынятымі ў 1935, 1969 і 1988 гг., дзе сказана, што членамі калгаса могуць быць грамадзяне 16-гадовага ўзросту, а прымаюць туды па пісьмовай заяве. Тым самым прадэманстравана, што Мінсацабароны кіруецца толькі літарай закона, у тым ліку прынятага даўно. Ну што ж, пойдзем і мы па гэтаму шляху.

І высветлім вось што. Напрыклад, у 1940 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прымае ўказ ад 2 кастрычніка, дзе ў пункце 8 сказана: «Абавязаць старшынь калгасаў штогод выдзяляць у парадку прызыву (мабілізацыі) па 2 чалавекі моладзі мужчынскага полу ва ўзросце 14-15 гадоў (заўважце ўзрост. — **С. Ш.**) у рамесныя і чыгуначныя вучылішчы і 16-17 гадоў у школы фабрычна-завадскога навучання на кожныя 100 членаў калгаса, лічачы мужчын і жанчын ва ўзросце ад 14 да 55 гадоў». Такім чынам, у 1940 годзе стаж пачынаў лічыцца з 14 гадоў, а не з 16-ці, як было ў 1935 годзе. Адзначым.

У 1942 годзе СНК СССР і ЦК ВКП(б) прымаюць пастанову ад 13 красавіка «Аб павышэнні для калгаснікаў абавязковага мінімуму працадзён». Цытую: «п. 4 — устанавіць абавязковы мінімум працадзён на працягу года для падлеткаў — членаў сем'яў калгаснікаў ва ўзросце ад 12 да 16 гадоў у памеры не менш 50 працадзён». Калі старшыня калгаса ўхіляецца ад судовага пераследу працаздольных калгаснікаў, якія мінімуму не выпрацавалі, то сам ідзе пад суд, гаворыцца ў пункце 7. А вось тут працаздольны ўзрост зніжаны ўжо да 12 гадоў. Трэба думаць, калі б таварыш Сталін пажыў яшчэ, то гэты ўзрост дайшоў бы да 10, потым да 8 гадоў.

Зноў жа, не ў гэтым справа. Пастанова 42-га года дзейнічала і ў 1949-м. Гэта толькі важна. Бо, па ідэі, здымае ўсе пытанні, а Генадзю Захаранку дае магчымасць пацвердзіць свой калгасны стаж на падставе дзяржаўных дакументаў. З імі, дарэчы, Генадзь Дзмітрыевіч наведаў намесніка міністра сацыяльнай абароны. Чым апошняга вельмі здзівіў. Як аказалася, намеснік пра існаванне цытаваных вышэй дакументаў не ведаў. Нават папрасіў дакументы ксеракапіраваць.

Перад гэтым Генадзь Дзмітрыевіч спрабаваў вырашыць пытанне з дапамогай паказанняў сведак. Пацвердзілі факт работы Захаранкі ў калгасе з 1949 па 1954 год Валерый Сцяпанавіч Вяргейчык (член калгаса з 1949 па 1992 г.) і Аляксей Мікалаевіч Андрончык (член калгаса з 1949 па 1958 г.). А намеснік начальніка ўпраўлення пенсійнага забеспячэння міністэрства адказала, што дакументы калгаса «Перамога» з 1949 года захаваліся, таму варыянт са сведкамі не праходзіць. У той жа час старшыня калгаса піша, што не, не захаваліся, усё згарэла. Каму верыць?

Намеснік міністра заяву ад Захаранкі прымае і «спускае» яе начальніку ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Н. Н. Шаўлоўскай. Тая адказвае, што падстаў для залічэння ў працоўны стаж Генадзя Дзмітрыевіча «калгасных» гадоў няма. Спадарыня Шаўлоўская пры гэтым спасылаецца на пісьмо ад 25.03.97 г. РБ № 02-02/94 прым. «Аб парадку ўключэння ў працоўны стаж часу работы ў калгасе». Пісьмо носіць водар таямнічасці, робіць выснову Генадзь Дзмітрыевіч, бо яму адмаўляюць з ім азнаёміцца. Ён, тым не менш, знаходзіць магчымасць пачытаць дакумент і высвятляе, што, згодна з гэтым пісьмом, вырашана не прымаць пад увагу станоўчыя рашэнні судоў па працоўнаму стажу ў калгасе, таксама не ўлічваюцца паказанні сведак.

Гэта, між іншым, дае падставу Генадзю Дзмітрыевічу Захаранку, а за ім, натуральна, і вашаму пакорнаму слугу сцвярджаць з поўным на тое правам, што парушаюцца законы Рэспублікі Беларусь. Мушу нагадаць работнікам міністэрства пастанову № 777 Савета Міністраў РБ ад 24.12.92 г. «Аб зацвярджэнні палажэння аб парадку пацвярджэння працоўнага стажу для назначэння пенсій». Прашу прабачэння, але без цытавання не абысціся: «П. 29. Пры адсутнасці дакументаў аб рабоце і немагчымасці іх атрымання... і адсутнасці архіўных даных працоўны стаж устанаўліваецца камісіяй па назначэнню пенсій на падставе паказанняў не менш як двух сведак». Мушу таксама нагадаць, што гэту пастанову ніхто не адмяняў, а памянёнае вышэй пісьмо ёсць акт падзаконны, ён нават не апублікаваны.

Цікава, што ў Чэрвені сацыяльны работнік сказала Генадзю Дзмітрыевічу: вы маеце рацыю, праўда на вашым баку, але што я магу зрабіць — вось пісьмо, я абавязана кіравацца ім. Адным словам, старая савецкая гісторыя: прымаецца правільны, прагрэсіўны закон, а потым ціха сачыняюцца разнастайныя пісьмы, распараджэнні, цыркуляры, згодна з якімі мы і жывём, бо т а к выгадна дзяржаве. Сталінская канстытуцыя 1936 года была, кажуць, самай дэмакратычнай на той час у свеце — адкуль толькі ўзяўся ГУЛАГ і мільёны зняволеных?..

## СПРАВА НЕ Ў ГРАШАХ,

гаворыць Генадзь Дзмітрыевіч. Яго, як законапаслухмянага грамадзяніна, узрушылі самі адносіны. Ён усё жыццё прысвяціў рабоце, пра законы асабліва не задумваўся. На схіле жыцця — сутыкнуўся блізка. Ад чаго на душы засталіся смутак і крыўда.

Генадзя Дзмітрыевіча зразумець лёгка: ён шчыра аддаў усё, а яго зараз «кінулі» па дробязі. Дый хто кінуў? Той, хто нас павінен «сацыяльна абараняць». Фактычна атрымліваецца так: вось гэты закон нам падыходзіць, мы яго будзем выкарыстоўваць, спасылацца на яго, а гэты — не, пра яго, значыць, давайце забудзем. А каб грамадзяне не «ўзнікалі» і не перашкаджалі нам іх плённа, старанна сацыяльна абараняць, то «намалюем» вось такое пісьмо. Што значыць — незаконнае? Самі напішам, самі ўзаконім.

Ці варта гаварыць пра маральны аспект праблемы? А чаму не? Дык вось, гэта пакаленне, народжанае ў апошняе пяцігоддзе перад вайной, я думаю, самае абдзеленае. Дзяцінства прыпала на вайну, юнацтва — на галодныя пасляваенныя гады. Можна сказаць, ні першага, ні другога не было. Многія нават пачатковую школу не скончылі, а тыя, хто чагосьці ў жыцці дасягнуў, былі прымушаны ўсё прабіваць сваёй галавой і локцямі. У многіх загінулі на фронце бацькі, многія засталіся круглымі сіротамі. Зараз яны выходзяць на пенсію. І зноў ім не шанцуе — мы зараз перажываем пераходны перыяд. Мары аб ціхай заможнай старасці не спраўдзіліся. Навошта ж іх дабівець сёння? Ды Бог з імі, сапраўды, з тымі невялікімі грашыма, якія яны заслужылі. Вы хоць бы «дзякуй» ім сказалі ды папрасілі прабачэння.

Верагодна, гэта прасцей зрабіць, чым пісаць паперы «адфутбольнага» сэнсу?

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

***P. S.*** *Яшчэ калі матэрыял быў, што называецца, у рабоце, мне пазванілі некалькі чалавек. «Здрада?» — пытаў я. «Так», — гаварылі мне, маючы на ўвазе першы артыкул на гэту тэму. Ва ўсіх патэлефанаваўшых аднолькавыя праблемы: ім не залічваюць у стаж гады, адпрацаваныя ў калгасе. За кожным такім званком, без перабольшання, дзесяткі і сотні тых, хто не пазваніў, не напісаў, бо саромеюцца, не прывыклі вырашаць свае праблемы такім чынам і г. д. Па краіне зацікаўленых людзей, зноў-такі без перабольшання, набіраюцца дзесяткі тысяч. Так што праблема не ўзята «з даху», яна ёсць у рэальнасці і яна востра цікавіць не толькі газету «Звязда» з, так бы мовіць, чыста спартыўнага інтарэсу, а і яе чытачоў.*

*І нават цяжка сказаць, якая гэта праблема: пераважна матэрыяльная, грашовая, альбо пераважна маральная. Верагодна, і тое, і другое.*



## ШЧЫРАЯ ПАДЗЯКА

Сям'я, родныя і блізкія былога начальніка Беларускай чыгункі Яўгена Іванавіча Валадзько выказваюць шчырую падзяку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў, міністэрствам, ведамствам, дзяржкамітэтам, рэдакцыям газет, радыё, тэлебачання за ўвагу, душэўныя словы падтрымкі і спачування ў сувязі з цяжкай і незаменнай стратай — смерцю Яўгена Іванавіча.

**БЕЛТА.**

## Восеньскі народны каляндар

# КАСТРЫЧНІК

**2/19. Зосім.** Журавіны на Зосіма ўздымаюцца — мароз на Пакровы ўдарыць.

У Расіі Зосім лічыцца апекуном пчол. Пакутнік Зосім Пустыннік жыў у IV ст.

**3/20. Астап (Астаф'я).** Людзі прыкмячалі: калі ў гэты дзень вецер паўночны — на холад, паўднёвы — на цяпло, заходні — на дождж, усходні — на сухое надвор'е.

Вялікамучанік Еўстафій Плакіда з Рыма прыняў смерць разам са сваёй сям'ёй за веру Хрыста каля 118 г.

**4/21. Пранцішак (Францішак).** Да гэтага часу жыта ўсё ўбрана з поля. «На Пранцішка зярнят шукае ў полі мышка».

**7/24.** Пачатак **бабінага лета,** як лічаць на Мядзельшчыне (да 14 кастрычніка).

У гэтую пару варажылі на «шчаслівую бабулю» (бабку-пупарэзніцу). Усе дні загадзя «раздаваліся» бабулям, якія прымалі роды ў наваколлі: панядзелак — Тэклі, аўторак — Юстыні, серада — Марцэлі і г. д. Калі дзень выдаваўся сонечны, ціхі, вясёлы, гэта азначала, што рука ў бабулі лёгкая і роды, адпаведна, пройдуць лёгка.

**8/25. Сяргей (Сергій).** Першыя халодныя дні месяца пасля асенняга раўнадзенства далі падставу ў некаторых мясцінах назваць яго пачаткам зімы. «З Сергія пачынаецца зіма» (Паўлюкоўскі, 1934). «Сяргей сняжком накрываецца», убіраюць капусту (Анічэнка, 1992). Прападобны Сергій Раданежскі (1392 г.) займае важнае месца ў гісторыі Расіі.

**«Жалезны тыдзень».** Чысцяць, змазваюць жалезныя рэчы, каб цэлы год не ржавелі і не ламаліся (Санько, 1990). На «жалезны тыдзень» існавалі і забароны: «Пянькі ні мачы — крэпка будзіць» (Смаленская губерня).

**9/26. Іван Шаптун (Іван Пакроўны, Іван Журавіннік, Іван Кураед, Багаслоў, Бугаслаў).** Свахі сакрэтна шапталіся з жаніхамі пра нявест, каб 1 кастрычніка (па старому стылю) зрабіць вяселле. Асабліва гэта было распаўсюджана ў Віцебскай губерні. Захавалася прымаўка: «Іван Багаслоў дружкі разаслаў, а на Пакрова дзеўка гатова».

У Лельчыцкім раёне гавораць: «Іван Пакроўны перад Пакровам ходзіць». Па прысвятку раней арыентаваліся ў заканчэнні сяўбы азімых, завяршалі іншыя палявыя работы і пачыналі вяселлі. «Хто не дасее да Івана Багаслова, той не варты Божага слова». «Святы Бугаслоў да буракі капаў» (Смалявіцкі раён; з валачобнай песні). На Драгічыншчыне кажуць: «Богославў сваты розослаў, пачынаюць высілля робыты» (Талстая, 1986).

Вядомы песні:

*Ах, восень, восень!*
*Сватоў па восем,*
*А ка мне ніводнага!..*
*Ай, восень, макрота,*
*Дзецюкам жаніцца ахвота...*

Пры выкананні розных гаспадарчых работ, талок спявалі таксама іншыя песні, не вельмі замацаваныя за асенняй парой.

У Шумілінскім раёне хадзілі па журавіны (ягады выкарыстоўвалі для лячэння многіх хвароб). Там жа раней высаджвалі куранят, якія вырасталі да Івана Кураеда, і аддавалі іх папу.

Святы апостал і евангеліст Іван Багаслоў (пач. II ст.) доўга заставаўся адзіным жывым сведкам жыцця Выратавальніка.

**11/28. Пакроўны бацька** — прысвятак за тры дні перад Пакровамі.

**Алесь ЛОЗКА.**



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

### У ВОЛЬНЫ ЧАС

# Па апенькі ў Рэпішча

## Шчырая споведзь заўзятага грыбніка

ЯШЧЭ Ў АЎТОБУСЕ я думаю пра тое, як вазьму кош ці пластмасавае вядро і пабягу ў лес збіраць грыбы. На прыпынках з цікавасцю пазіраю на людзей: ці вязуць дары лесу дачнікі, якія вяртаюцца ў Жодзіна? У вёдрах, кашах штосьці бялее, рудзее. Значыцца, пайшлі грыбы. Млею ад спакусы апярэдзіць час і апынуцца ў Тачылішчах. Ах, грыбы, грыбкі, грыбочкі! Шукаць іх у траве, моху — якое гэта задавальненне. Якая неапісальная радасць, узнёсласць, якое натхненне! Нездарма збор грыбоў параўноўваюць з паляваннем!

З Наталляй, жонкай, наспех пераапранунуўшыся ў гарадскія неданоскі, з рознакаляровымі пластмасавымі вёдрамі, грызучы антонаўкі, спяшаемся па травяністай сцежцы праз былы дзеда Якава агарод, абнесены плотам з жэрдак, у знакамітую грыбную аселіцу. Царства цёмна-зялёных раскідзістых елак, алешніку, бухматых лазовых кустоў, калючых, вільготных лапін, непралазных зараснікаў засохлай крапівы. Ступаем па пульхнай бурай, парыжэлай коўдры, засыпанай лісцем, якое шамаціць пад нагамі. Вочы напружана шнараць. Там-сям бялеюць чародкі пянькоў зрэзаных радовак. Але абочына па былой канаве-дарозе насупраць Міколавай сядзібы старанна «апрацавана». Нехта пашчыраваў на славу, пэўна, на адным месцы напакаваў цэлы кош. А можа, што засталося незаўважаным? Я злазіў пад мокрыя лапіны маладога ельніку. Безвынікова! У жончына вядро больш насыпалася лісця, чым трапіла выпадкова знойдзеных грыбоў. А збіраць іх яна майстрыха, наведваючы знаёмыя з маленства грыбныя мясціны.

За лесам адкрываецца панарама тарфяніку, узвышаюцца піраміды бурага торфу, блішчаць рэйкі вузкакалейкі. Як стрэлы, прамыя, глыбокія канавы, у іх цурчаць, струменяць празрыстыя ручайкі.

Ад Міколавай канавы брыдзем, панылыя, аселіцай у маляўнічае ўрочышча Рэпішча. Разлапістыя, гонкія хвоі, змрочны ельнік сустракаюць цішынёй. Летам тут зараснікі пякучай высокай крапівы, непралазнага маліннікy, а зараз тырчыць быльнёг, чарнеюць «пірамідкі» назапашаных яшчэ зімою дроў.

Паўсюдна таксама бялеюць змейкі пянькоў ад радовак. Як сведчаць пянькі, пашанцавала і тут грыбніку. Задавальняемся толькі пахам грыбоў, прэлых лісцяў, свежай сырасці, хвоі і смалы. Маркотна, паныла. Не шанцуе нам зусім. Дары лесу пазбіралі тыя, хто паблукаў раніцою. А вяртацца з прыгожымі, але пустымі вёдрамі так сумна.

Блукаем самотныя па лесе, ужо не спадзеючыся на ўдачу. Ажывіліся мы крыху, калі заўважыла Наталля ў чэзлай крапіве цёмна-карычневыя, з паяском на корані грыбы, нібы рассыпаныя долу. Хоць крыху апенек прынясём, думаем, не з пустымі ж вёдрамі вяртацца.

Збіраць і шукаць грыбы, скажу вам шчыра, вялікае, невыказнае задавальненне: вось знайшоў адзін, другі, трэці... І раптам заўважылі зламаны ствол бярозы, упрыгожаны сузор'ем апенек. Я пачаў іх тут жа рэзаць, а Наталля паглыбілася хуценька ў нізкаросны ельнік.

Адтуль даляцеў яе радасны воклiч:

— А тут грыбоў, Саша, процьма! Ідзі хутчэй сюды!

Я ўзрушанасці жончынай не паверыў, пакуль не пабачыў такі цуд на свае вочы. Гэткай, скажу вам, прыгажосці, гэтулькі грыбоў нідзе дагэтуль не бачыў ніколі. Нават не ўяўляў, што так шчыльна яны растуць. Каля ельніку жоўта-карычневае рабацінне разбеглася паласой метраў на пяць. Сапраўды, хоць касой касі! А каля лагчынкі вялізны, замшэлы пень быў літаральна абляплены апенькамі: яны былі не толькі па баках камля, але ўшчыльную сядзелі і на яго зрэзе. Высокія, беланогія. Царства апенек — і толькі. Шкада, што нельга было сфатаграфаваць: не захапілі мы ў лес фотаапарат. Грыбок за грыбком зразаю з паверхні пня з белымі, крамянымі ножкамі-карэньчыкамі. Жонка збірае тыя, што рассыпаліся каля ельніку, па лагчынцы. Маё сэрца перапаўняе ўзнёслая радасць. Разаслалі балоневы плашч, апаражнілі на яго свае вёдры, потым яшчэ высыпалі. Задаволеныя, з паўнюткімі вёдрамі, несучы ў дзве рукі, падаліся дахаты.

Дома ацынкаваныя начоўкі былі поўныя маладых апенек. І паверце, грыбы ўжо не вабяць, не цешаць: вельмі ж іх шмат. А якая марока іх перабіраць, які ж гэта нудны, марудны занятак. Выходзіць, залішне грыбоў назбіралі. Да прыцемкаў ледзь справіліся з імі, а вечарам адварылі на газавай пліце. Да ладу давядзе жонка потым: даварыць, расфасуе па слоіках, закруціць металічнымі накрыўкамі.

Але раніцай я зноў паляцеў у Рэпішча да таго славутага пня, як кажуць, у разведку. Можа, што засталося паблізу? Аблазіў па лесе ўсё навокал, нават на тарфянікі збегаў — ні адной апенькі. Значыцца, грыбоў нямашака. Адтуль панёсся ў Заключыну. Апенькі дзе-нідзе трапляюцца, асабліва ля леташніх-пазалеташніх маладых бярозавых пянькоў. Прыгожыя, як на малюнку ў кніжцы. Рыжыя кубачкі, бухматыя, высокія, з дзябёлымі ножкамі. Бы тыя кумпячкі Буша.

А няўрымслівая Наталля панеслася туды зноў, нягледзячы на маё папярэджанне. Прыляцела задыханая — грыбоў знайшла процьму, адна не можа справіцца. Паклікала мяне на дапамогу. А я марна поўзаў дзесьці дагэтуль па лесе. Значыцца, грыбы, якіх я не заўважыў ва ўрочышчы, былі не мае! Прынеслі яшчэ некалькі вёдзер. Калупаліся, поркаліся з імі ў бацькавай хаце і дома на кухні ў кватэры. Так што назапасілі багата на зіму грыбоў, нават падзелімся са сваякамі і суседзямі.

А мой знаёмы, які, відаць, ніколі ў лесе не быў, адно пацягвае «чарніла» і смокча смярдзючую «Астру», нясе кожны раз усё тую ж лухту: «Якія там грыбы, калі іх не было і няма?..»

І я заўсёды даю яму слушную параду: «А ты, даражэнькі, паедзь у лес і там сам пераканаешся...»

**Аляксандр ДЗЕРАВЯНКА.**

## Шашкі

**Эцюд Аляксандра Шошына**



Гэты шашачны твор складзены прыкладна стагоддзе таму прызнаным карыфеем шашачнай гульні. Пагадзіцёся, адшукаць выйгрыш за белых не проста. Але ён ёсць. Чакаем адказаў ад аматараў шашак.

**Белыя:** дамка d2, простая e3 (2). **Чорныя:** d6, g7, h4 (3). **Белыя пачынаюць і выйграюць.**

**Зверым адказы?**

Белым у прапанаванай пазіцыі (гл. «Звязду» за 17 верасня) цяжка адшукаць выратаванне. Ход, які здаецца натуральным, 1. ba5 вядзе да пройгрышу: 1. ... fg5. 2. a:e5 g:g1x. Не выратоўвае таксама 1. ...fe3 з-за 1. ... hg3! 2. ba5 g:c3 3. a:g7 h:f8 і г. д.

Такім чынам, выратавання для белых быццам бы няма. Але яно ёсць!

1. fg3! h:f2 2. hg3! f:h4 (белыя ахвяруюць «лішнія» шашкі) 3. ba5 fg5 (3. ... dc5 вядзе да пройгрышу чорных) 4. a:e5 g:c5 5. ef6 cd4 6. fe7 dc3 7. ed8...

Нічыя, бо белыя паспяваюць заняць або двайнік, або бальшак.

## Віншаванні



## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

*Сёння ва ўсім свеце па рашэнню Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адзначаецца **Міжнародны дзень пажылых людзей,** а таксама — **Міжнародны дзень музыкі.***

- **1 кастрычніка 1880 года** амерыканскі вынаходнік Эдысан адкрыў у штаце Нью-Джэрсі першую фабрыку па выпуску электрычных лямпачак.
- **1 кастрычніка 1881 года** нарадзіўся амерыканскі авіяканструктар Уільям Боінг.
- **У гэты дзень у 1924 годзе** нарадзіўся вядомы палітычны і дзяржаўны дзеяч ЗША Джымі Картэр, 39-ты прэзідэнт Злучаных Штатаў.
- **1 кастрычніка 1927 года** нарадзіўся вядомы рускі акцёр і тэатральны рэжысёр Алег Мікалаевіч Яфрэмаў, народны артыст СССР. Здымаўся ў фільмах «Тры таполі на Плюшчысе», «Сцеражыся аўтамабіля» і інш.
- **У гэты дзень у 1931 годзе** ў СССР пачаліся рэгулярныя трансляцыі тэлебачання.
- **У гэты дзень у 1938 годзе** германскія войскі пачалі акупацыю Судэцкай вобласці Чэхаславакіі.
- **1 кастрычніка 1949 года** была абвешчана Кітайская Народная Рэспубліка на чале са старшынёй Мао Цзэдунам.
- **У гэты дзень у 1950 годзе** ў СССР пачалася апошняя хваля рэпрэсій — так званая «ленінградская справа». Ахвярамі яе сталі многія партыйныя і савецкія дзеячы, вылучэнцы Ленінграда, а таксама мясцовае кіраўніцтва. Былі расстраляны Старшыня Савета Міністраў РСФСР М. Радзівонаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР М. Вазнясенскі і іншыя.
- **У гэты дзень у 1982 годзе** новым канцлерам Федэратыўнай Рэспублікі Германіі стаў Гельмут Коль, які пратрымаўся на гэтай пасадзе роўна 16 гадоў — больш, чым Адэнаўэр, але менш, чым Бісмарк.
- **1 кастрычніка 1988 года** Міхаіл Гарбачоў абраны Старшынёй Вярхоўнага Савета СССР.

### І так бывае

***Як вядома, у Злучаных Штатах кожны штат у многім кіруецца ўласнымі законамі. Так, на працягу многіх гадоў у Арызоне дзеці не вывучалі тэорыю эвалюцыі.***

Названы прадмет ужо даўным-даўно быў уключаны ў адукацыйную праграму 49 штатаў, а вось арызонскія школьнікі аб эвалюцыі нічога не ведалі і лічылі, што малпа пайшла ад кракадзіла. Нарэшце, здзейснілася. Мясцовае міністэрства адукацыі пастанавіла: уключыць гісторыю эвалюцыі ў спіс агульнаадукацыйных прадметаў. Жыхары суседніх штатаў ухмыляюцца: «Ну што ж, Арызона, калі ласка ў XIX стагоддзе!»

### Дзесьці на белым свеце

***Аўстралійскія будаўнікі — народ вельмі вясёлы і гарэзлівы. У час работы яны пастаянна жартуюць і весяляцца. Вось, напрыклад, прыяцель будаўніка па імені Трэвіс Боджуміл арыгінальна пажартаваў, засадзіўшы Трэвісу ў галаву цвік.***

На самай справе гэта, вядома, не жарт. Проста аказалася парушанай тэхніка бяспекі пры рабоце з пісталетам для аўтаматычнага забівання цвікоў.

Дык вось, цвік трапіў бедалагу прама ў мозг. Нерухомага Трэвіса адвезлі ў бальніцу, дзе іншародны прадмет не без цяжкасцяў выдалілі. Самае цікавае, што ў хуткім часе містэр Боджуміл акрыяў ад цяжкай траўмы, ад якой іншы немінуча загінуў бы, і пры гэтым амаль не заўважае ніякіх астаткавых эфектаў. «Вось толькі з матэматыкай у мяне стала крыху горш, — скардзіцца аўстраліец. — Ніяк не магу перамножыць у галаве 56 на 23».

### А яшчэ быў выпадак

***Як гэта, напэўна, цяжка — на працягу паўстагоддзя несці на душы цяжар злачынства! Аднак палёгка можа наступіць і праз пяцьдзесят гадоў.***

Днямі дырэктар школы, якая знаходзіцца ў паўночным Айдаха, атрымаў пісьмо. У канверце ляжала 50 долараў і запіска: «Гэта грошы, якія я ўкраў у вас у 1948 годзе, плюс працэнты. Мне вельмі сорамна, прабачце мне».

Джон Маерс, дырэктар школы, кажа, што вельмі хацеў бы звязацца з аўтарам, але разумее, што апошні хацеў бы захаваць ананімнасць. Маерс расказаў аб гэтым выпадку ўсёй школе. «Выправіцца ніколі не позна. Гэты чалавек павінен ведаць, што ён паказаў усім нам урок сапраўднай мужнасці і прыстойнасці», — сказаў дырэктар Маерс. Нечаканыя грошы ён вырашыў перадаць на дабрачыннасць.

### Навінкі

***Праблема беспрацоўя ў Беларусі яшчэ толькі набірае свае абароты і размах, а ва ўсім свеце даўно ўжо тлее ў сярэднім тэмпе. Вось і ў Італіі дастаткова беспрацоўных. Нізкі ўзровень занятасці днямі давёў «да ручкі» тры дзесяткі неапалітанцаў, якія ў выніку атакавалі славуты рымскі фантан Трэві.***

Беспрацоўныя ўзялі фантан штурмам, чынна расселіся на ім і сталі актыўна чакаць працы. Актыўнасць іх заключалася ў тым, што неапалітанцы больш-менш дружна скандзіравалі: «Працу! Працу!» Седзячы на мармуровых ступеньках фантана, італьянцы заадно пагражалі масавым актам самаспалення.

Акцыя выклікала жывое захапленне і цікавасць толькі ў турыстаў, якія прыняліся фатаграфаваць пратэстуючых, яўна чакаючы таго моманту, калі беспрацоўныя сябе падпаляць. Аднак гістарычны акт давялося адкласці на няпэўны тэрмін — з бліжэйшага рэстарана неапалітанцам даставілі піцу і піва, што апошнімі з задавальненнем было спажыта, пасля чаго яны разышліся.

### Анекдот

*Конь і асёл спрачаюцца, хто з іх больш патрэбны.*

*— У мяне слаўнае мінулае. Мае продкі хадзілі ў баявыя паходы і адкрывалі новыя землі...*

*— Ну і што, — адказвае асёл. — Вас, коней, амаль паўсюдна выцесніла тэхніка, аўтамабілі, а аслы заўсёды былі і будуць.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 100.532.
Індэкс 63850.
Зак. № 5801.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12